PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 20 (1931) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 16 МАЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*„Апусцела ўжо вёска, апусцела палоска..." (з верша В. Шведа).*

## ПАЛЯКІ Ў БЕЛАРУСІ — ПАДОБНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

24-25 красавіка ў Гродне праходзіў II з'езд Саюза палякаў Беларусі. Прыняло ў ім удзел 378 дэлегатаў, якія заслухалі справаздачу пра дзейнасць старых улад, ухвалілі гэтую дзейнасць і падзякавалі праўленню, абмеркавалі папраўкі ў статуце арганізацыі і галоўныя накірункі працы ў будучыні ды выбралі новыя ўлады СПБ.

Якія ўражанні ад з'езда мог атрымаць пабочныназіральнік? На першы погляд, з'езд праходзіў вельмі хаатычна, дэлегаты ў сваіх выказваннях мяшалі справы важныя з зусім нікудышнімі, прыватнымі. Час ад часу ўспыхвалі спрэчкі між дыскутантамі, якія з цяжкасцю суцішаў прэзідыум. Былі нават прапановы, каб гэты з'езд, як непадрыхтаваны, распусціць, а новы папярэдзіць сапраўднай справаздачна-выбарнай кампаніяй. Усё нармальна — падумаў бы ўдзельнік такога тыпу беларускіх мерапрыемстваў, асабліва з'ездаў БГКТ і пленумаў яго Галоўнага праўлення.

Перад з'ездам у Гродне мяне папярэджвалі: „Там ты пачуеш толькі прэтэнзіі ў адрас урада, што не выконвае сваіх абавязкаў перад грамадзянамі РБ польскай нацыянальнасці. Як мадэльны прыклад усебаковага забеспячэння ўладамі дзяржавы патрэбаў нацыянальнае меншасці будзе ставіцца беларуская меншасць у Польшчы". З праўдзівай прыемнасцю пішу, што падобных выказванняў на з'ездзе я не чуў зусім. Не было таксама гаворкі пра „Kresy" і „polskie miasto Grodno", што з'ўляецца ўсё-такі істотным прагрэсам, бо яшчэ тры гады таму, на I з'ездзе СПБ, такія галасы паяўляліся нярэдка.

Гэта, па-мойму, вынік, як сталення арганізацыі, так і набыцця палітычнага мыслення ейнымі кіраўнікамі. Гэта таксама вынік візіту ў Гродна ў мінулым годзе прэм'ер-міністра Г. Сухоцкай. Візіт гэты, як і падобныя ўлад РБ у Беластоку, наяўна паказаў, дзе знаходзіцца месца нацыянальнай меншасці і колькі яна вартая, як фактар у міждзяржаўных дачыненнях.

Ва ўсіх нацыянальных меншасцяў, незалежна ад розніц між імі, ёсць падабенства. Усім ім уласцівыя галоўныя праблемы: захаваць сваю тоеснасць, не расплысціся ў моры большасці.

Саюз палякаў Беларусі лічыць, што польскае школьніцтва і сетка польскіх культурных установаў адроджаюць нацыянальную свядомасць тамашніх палякаў. Пры чым, частка гэтых установаў павінна быць створана за кошт дзяржавы, а частка на грамадскіх пачатках.

Вельмі моцна падкрэслівалася роля Каталіцкага касцёла ў захаванні польскай свядомасці, мовы, культуры на гэтых землях. Што да магчымай яго беларусізацыі, дык удзельнікі з'езда зыходзілі з такога прынцыпу: няхай сабе беларусы моляцца ў касцёле па-беларуску, але няхай не кажуць нам, на якой мове мы маем маліцца. „Касцёл заўсёды тут быў польскі" — сказаў старшыня СПБ Тадэуш Гавін, які выразнай большасцю галасоў захаваў сваю пасаду.

Падкрэсленнем ролі Касцёла было ўвядзенне ў статут СПБ запісу аб „хрысціянскіх вартасцях". Гэта таксама сведчыць пра зразуменне духа часу.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ**

## ПАГУЛЯЛІ ПА-ПРАВАСЛАЎНАМУ...

28 красавіка 1993 года, гадзіна 11.45. Зала VI A III Крымінальнага аддзялення Раённага суда ў Беластоку. Голас пані суддзі манатонны і бясстрасны.

— Прозвішча і імя?
— Вязоўская Ірэна.
— Дата нараджэння?
— ...........
— Месцажыхарства?
— ПГР „Ігнаткі".
— Грамадзянства?
— Польскае.
— Паходжанне?
— Сялянскае.
— Дзе працуеце?
— ПГР „Ігнаткі", бухгалтар.
— Якія заробкі?
— 1.600.000 злотых.
— Цывільны стан?
— Панна.
— Ці прыналежыце да якіх-небудзь арганізацый?
— Не.
— Ці ёсць у вас нейкія ордэны або медалі?
— Не.
— Ці былі вы асуджаны?
— Не.
— Ці здаровыя вы?
— Так.

І далей:
— Прозвішча і імя?
— Яланта Панятоўская.
— Дата нараджэння?
— ...........
— Месцажыхарства?
— ПГР „Ігнаткі".
— Грамадзянства?
— Польскае.
— Паходжанне?
— Сялянскае.
— Дзе працуеце?
— ПГР „Ігнаткі", прадаўшчыца.
— Вашы заробкі?

Ну, і потым усё таксама. Пані суддзя выклікае па чарзе яшчэ Галіну Гадлеўскую і Галіну Слыж. Іх біяграфіі амаль не адрозніваюцца ад біяграфій сяброўак. Усе яны — сялянскага паходжання, гады нараджэння — 1962-1967, незамужнія, усе жывуць у ПГРы „Ігнаткі", усе, за выключэннем адной, там жа і працуюць.

Чатыры дзяўчыны абвінавачваюцца ў тым, што 13 студзеня 1993 года а гадзіне 23.15 яны парушылі спакой грамадзянкі Тэрэсы Новік.

xxx

Можа, і не давялося б нам трапіць у гэтую судовую залу, калі б не драматычны тэлефон яшчэ ў студзені гэтага года, які ўзбударажыў усіх, хто быў прысутны ў рэдакцыі. Усхваляваным голасам, амаль плачучы, маладая жанчына прасіла дапамогі або прынамсі нейкай рады, бо пагражае ёй і яе тром сяброўкам суд. Што яны такога зрабілі? Ды вось, сабраліся 13 студзеня, каб прывітаць Новы год, фактычна гэта яна запрасіла ў свой пакойчык сяброўак, бо сяброўкі-суседкі — каталічкі. Прыйшлі да яе ў госці. Жывуць яны усе ў адной кватэры, толькі ў розных пакоях. А адной суседкі не запрасіла. Тая выклікала паліцыю і нарабіла шуму. Што цяпер з імі будзе?

Жанчына прадставілася: Ірэна Вязоўская, жыве ў блёку ў ПГРы „Ігнаткі". Ці праўда, было аж так гучна? А дзе там! Чатыры дзяўчыны ў цесным пакойчыку, хлопцаў не было. Іграла радыё, выпілі бутэльку шампанскага. Чаму звоніць нам? А куды ж ёй званіць?! Дзе шукаць абароны?!

Мы падалі Ірэне Вязоўскай тэлефон зычлівага нам юрыста...

☞ *Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Na początku wyczytałem, że jasne pola wypełnia podatnik, a ciemne urząd skarbowy. Pola jasne, a mnie przed oczami ciemno. Do dziś latają mi przed tymi ostatnimi liczby i zera przed i po przecinku. Uzbrojony w liczydło i kulkopisy wielokrotnie „podchodziłem" do wypełniania broszury zeznania. W telewizji mówiono: to nie jest takie trudne. Jak dla kogo...*

*(Gazeta Polska, nr 17)*

**Тут, безумоўна, Міністэрства фінансаў дало маху, разлічваючы, што тодасу дадуць сабе рады з PIT-31 і PIT-32. А тэлебачанне, вядома ж, каб падлізацца да ўлады, дзьме ў тую ж самую дудку. Гледачам толькі адзін крыптанім зразумелы — J-23! Але яго, чамусьці, не даюць.** Bruner, ty świnio!

* * *

*Narodowa Organizacja Rzeczypospolitej Orzeł-Prawda-Wolność w imieniu Boga i Ojczyzny wzywa wszystkie dzieci, wszystkie matki, wszystkich patriotów do apelu — wzywa do udziału w Powstaniu Narodowym. Wzywa do obrony własnej Ojczyzny — Ziemi Orła. (...) Nasz kryptonim Orzeł. W dalszych kontaktach należy stosować kryptonimy, które organizacja ukrywa za głębokie kulisy czasu i historii. Rozważyć możliwość delegowania kurierów. Dokumentacja powstańcza na przystani rzeki Złota w dziewiczych kniejach.*

*(Gazeta Współczesna, 27.04.1993)*

**Гэтыя цытаты — з палітычных дакументаў партыі** NOR Orzeł-Prawda-Wolność. **Моцна законспіраваная арганізацыя. Але некаторыя намёкі наводзяць нас на здагадкі, што** dokumentacja powstańcza **можа знаходзіцца над рэчкай у Белавежскай пушчы. Зноў будзе на нас, калі што. А мы ж тут ні пры чым,** panie pułkowniku!

* * *

*W Paryżu częściej spotyka się ludzi mówiących po polsku niż... w Mińsku.*

*(Pryzmat, 30.03.1993)*

Niesłychane! O merde, to znaczy, psiakrew!

* * *

*—Wileńscy Polacy są skłóceni, trudno chyba o bardziej rozbite środowisko. Nie wiadomo z kim rozmawiać.*

**Roman Mieczkowski:** *To rozbicie ma swoje dobre i złe strony. Od dłuższego czasu Związek Polaków i w ogóle litewscy Polacy utożsamiani są z postkomuną. W Wilnie jest 17 polskich organizacji. Różnice między nimi stopniowo będą się zacierać. Również na skutek nacisków Warszawy —* ***сказаў польскі дзеяч з Віленшчыны ў размове з журналістам*** *„Kuriera Porannego" (nr 82).*

* * *

*Jak mrówka nie żyje kosztem słonia, tak i my nie mieliśmy i nie mamy zamiaru być na czyimś utrzymaniu. Naodwrut, robimy wszystko, ażeby uruchomić wspólną polsko-białoruską firmę, która pozwoli nam uniezależnić się i z miesięcznika zrobić „CP" tygodnikiem.*

*(Cudowna Podróż, nr 3, Grodno)*

**Так піша галоўны рэдактар польскамоўнага месячніка** „Cudowna Podróż" **Влодзімеж Малашкевіч — калісьці — беларускі журналіст Уладзімір Малашкевіч.**

**Пры нейкай нагодзе Пілсудскі сказаў, што няма чаго баяцца беларусаў — правапіс іхняй мовы настолькі цяжкі, што яны самі ніколі яе не навучацца. Ад сябе дадамо — і з польскай ім будзе тугавата.**

* * *

*A o Białorusi wiemy aktualnie przerażająco mało, powtarzając opowiastki sprzed kilku-kilkunastu lat albo czytając okolicznościowe opinie takich sobie polityków i pośpieszne rewelacje „rewolwerowców". I błędem jest takie wyobrażanie sobie Republiki Białorusi jako wielkiej kopii naszej biaostockiej społeczności białoruskiej, z jej liderami, programami, postawami.*

*(Kurier Podlaski, 04.04.93)*

Zaiste, tak. „Kurier Podlaski" **зрабіў каласальнае адкрыццё: нельга па паводзінах меншасці меркаваць аб большасці. Цікава, што якраз у дачыненні да беларусаў. Раней, відаць, ім і ў галаву не прыходзіла думка, што па паводзінах польскай меншасці, скажам, у Беларусі, нічога талковага нельга сказаць пра палітычнае і ўсялякае іншае жыццё ў Рэспубліцы Польшча.**

* * *

*3 Maja wzdłuż regionalnej ściany Wschodniej na żadnej wiejskiej szkole, zlewni mleka, sklepie, parafii prawosławnej czy remizie nie powiewała biało-czerwona flaga. Podobnie było w wielu dzielnicach Białegostoku, że o prywatnych domach nie wspomnę.*

*(Gazeta Współczesna, nr 88)*

* * *

*Na giżyckim bazarze pojawił się Rosjanin z wiaderkiem. Takim samym w jakim baby przynoszą jaja. Wprost z pełnego wiadra oferował granaty obronne.*

*(Gazeta Wspczesna, nr 88)*

<u>Ліст у рэдакцыю</u>

## ХТО НЕ ЛЮБІЦЬ ПАДПІСЧЫКАЎ?

**Галоўны рэдактар „Нівы"!**

Дзесяткі гадоў з'яўляюся я пастаянным чытачом нашай беларускай „Нівы". Люблю я чытаць свой тыднёвік, але бяда ў тым, што я атрымоўваю газету не ў пятніцу, а толькі ў панядзелак. Першы нумар з мая дайшоў да мяне нават аж у аўторак. Не магу зразумець, чаму „Ніва" ў продаж на пошту ў Нараўцы паступае ў пятніцу з раніцы, а падпісчыкам — толькі ў панядзелак. Пытаў я свайго пісьманосца, чаму пастаянныя падпісчыкі не могуць чытаць „Ніву" ў суботу ці нядзелю, дык той адказаў, што ад мясцовай пошты гэта не залежыць, бо калі газету прысылаюць, то яны і ў той самы дзень яе разносяць.

18 сакавіка быў я ў рэдакцыі „Нівы", і там мне сказалі, што рэдакцыя будзе старалася гэтае выправіць, але, відаць, вы на гэта забыліся. Цяпер, калі набліжаецца тэрмін падпіскі на „Ніву" (да 20 мая) на III квартал, я не ведаю, што мне рабіць: ці падпісацца, ці не? Мне здаецца, што вам лепей мець пастаянных падпісчыкаў, чым прадаваць „Ніву" на рынку.

Відаць, трэба мне будзе расстацца з „Нівай", якую я чытаю з першага нумара. У маёй вёсцы няма кіёска, а на пошту трэба было б хадзіць 5 кіламетраў. Старому і хвораму галавеку гэта трохі далекавата. Прадчуваю аднак, што „Ніву" буду выпісваць пакуль буду жыць, а яна будзе друкавацца.

Адкажыце мне, як будзе ў будучыні.

**УЛАДЗІМІР КЛІМЮК,**
**Плянта**

<u>**АД РЭДАКТАРА:**</u>

**Паважаны спадар Уладзімір Клімюк!**

Мы не забылі Ваш візіт у рэдакцыі і ведаем пра гэтую скандальную сітуацыю, што ў продажы на пошце „Ніва" з'яўляецца ў пятніцу, а падпісчыкі атрымоўваюць яе толькі ў панядзелак. Асаблівa баліць нам тое, што пакрыўджанымі тут бываюць найбольш верныя чытачы тыднёвіка.

А справа выглядае так: у чацвер надрукаваную „Ніву" развозіцца фірмам, якія займаюцца яе кальпартажам. На другі дзень яна ёсць ужо ў продажы. А што з падпісчыкамі? Пошта, якая вядзе падпіску, паясняе так: „У пятніцу кожнаму чытачу можам накіраваць газету паводле распіскі з тых жа такіх самых прынцыпаў, па якіх адпраўляюцца лісты." У суботу і нядзелю, вядома, праца на пошце спыняецца, і таму толькі ў панядзелак пісьманосцы нясуць газеты (не толькі „Ніву") падпісчыкам. Адзіны пазітыўны бок падпіскі — гэта тое, што пошта дае гарантыю на пастаўку „Нівы" да дому чытача.

У гэтай справе мы шмат разоў гаварылі з дырэкцыяй Пошты і даведаліся, што з падпіскай звязана нейкая бюракратычная працэдура, якой ані ў якім выпадку абмінуць немагчыма.

Нам вельмі прыкра за такую сітуацыю. Будзем уплываць на дырэкцыю Пошты, каб як найхутчэй змяніць гэты парадокс.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Ці можна сёння знайсці працу маладому чалавеку?
- Ліст войта Мілейчыцкай гміны ў справе школы ў Рагачах.
- Яшчэ раз пра дзядзьку Леніна і яго хлопцаў з Чэка.
- Прафесар Цэзары Хлябоўскі "przygważdża białoruskie kłamstwa".

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### НАРОД І СПІКЕР ПАРАЗУМЕЛІСЯ

З пачатку арганізаванага мясцовай Радай БНФ збору подпісаў ужо 500 жыхароў Навагрудка падпісаліся на спецыяльным бланку, дзе выказваецца просьба да Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча выкарыстаць увесь свой аўтарытэт для таго, каб Беларусь захавала статус бяз'ядзернай нейтральнай дзяржавы.

Не з адных вуснаў прагучала такая прапанова і падчас „хаджэння ў народ" Станіслава Шушкевіча. Яго пазачарговае выступленне перад тэлегледачамі было выклікана абвастрэннем унутрапалітычнай сітуацыі ў сувязі з рознагалоссямі ў Вярхоўным Савеце па пытаннях далучэння Беларусі да калектыўнай бяспекі.

### РЭФОРМЫ БУКСУЮЦЬ, ЛЮДЗІ БЯДУЮЦЬ

Камісія Еўрапейскага супольніцтва ў межах праграмы вывучэння грамадскай думкі „Еўрабарометр" сумесна з інстытутам „Расійская грамадская думка і даследаванне рынку" правялі поўнамаштабнае даследаванне сітуацыі ў 18 краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У тым ліку і на Беларусі.

Высветлілася, што 18 % апытаных беларусаў зрабілі змрочны прагноз аб устанаўленні дыктатуры ў краіне на працягу бліжэйшага года, сярод аптымістаў — 62 %. Між тым, лічаць, што эканамічнае становішча змянілася да лепшага 9, засталося ранейшым — 10 і пагоршылася — 79 % беларусаў.

На апошняе пытанне аб тым, хутка ці марудна ідуць эканамічныя рэформы на Беларусі, толькі 9 % нашых землякоў адказалі, што тэмп рэформаў выбраны правільна. 46 % рэспандэнтаў-беларусаў лічаць яго замаруджаным, а 12 — вельмі хуткім.

### „ЗОРКА" ПАД ЗОРКАЮ ПАГОНІ

14 красавіка адбылося ўзнагароджанне першых лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій незалежнай суверэннай Беларусі.

Знакі „Лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі" прадстаўлены чатырма варыянтамі з адлюстраваннем Пагоні, Янкі Купалы, Якуба Коласа і Кастуся Каліноўскага.

Сярод лаўрэатаў — Алесь Звонак, Сяргей Грахоўскі, Сяргей Законнікаў.

### НОВЫ ГІМН — СПРАВА ЎСЕНАРОДНАЯ

Нешчаслівы лёс наканаваны новаму гімну Беларусі. Да гэтага часу афіцыйна не зарэгістраваны ні адзін з прапанаваных варыянтаў.

Праслухаўшы тры папярэдне абраныя тэксты — „Полацкі сшытак" з ананімнага зборніка XVII стагоддзя, „Магутны Божа" Наталлі Арсенневай і „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" Макара Краўцова, журы адзначыла ўласцівыя для беларусаў і стваральны, і патрыятычны, і набожны пачаткі, але не адважылася парушыць традыцыю перакладвання рашэння на плечы народа. Пасля апрацоўкі вышэй адзначаных тэкстаў і запісу на радыё лёс гімна будзе вынесены на ўсенароднае абмеркаванне.

### БНФ, ТВОЙ НАРОД ДАЧАКАЎСЯ-ТАКІ

Нарэшце і на Беларусі стала магчымым не толькі адкрыта святкаваць неафіцыйнае свята дня нараджэння Беларускай Народнай Рэспублікі, але адкрыта выдаць зборнік, прысвечаны святкаванню яе 75-х угодкаў.

Створаная камісіяй па культуры Беларускага народнага фронту група па падрыхтоўцы зборніка вызначыла арыенціровачны тэрмін выдання — у 1993-1994 годзе.

### ФАЛЬКЛОР ЗБІРАЕ СЯБРОЎ

Маючаму адбыцца ў наступным годзе міжнароднаму фестывалю фальклору папярэднічае навуковая канферэнцыя „Фальклор як сродак выхавання нацыянальнай свядомасці", якая будзе праведзена ў чэрвені ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Арганізатарамі канферэнцыі, дзе плануецца абмеркаваць пытанні маладзёжнага фальклору, фальклору вёскі, фальклору ў сродках масавай інфармацыі, сталі міністэрства культуры, інфармацыі і асацыяцыя фальклáрыстаў Рэспублікі Беларусь.

### МІРУ — ЦЭНТР

Беларускі камітэт абароны міру, а таксама аўтарытэтныя навукоўцы і грамадскія дзеячы рэспублікі ўтварылі недзяржаўную арганізацыю Рэспублікі Беларусь „Нацыянальны цэнтр стратэгічных даследаванняў". Асноўныя задачы арганізацыі — даследаванні праблемаў вайны і міру, міжнароднага супрацоўніцтва, нацыянальнай бяспекі і нераспаўсюджвання ядзернай зброі, аналіз і прагназіраванне палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## РУІНЫ ПАСЛЯ КАМУНІСТАЎ

Вельмі мяне раздражнае, калі па радыё ці тэлебачанні чую, што за 45 гадоў камуністы нічога ў Польшчы не зрабілі, а калі да ўлады прыйшла „Салідарнасць", дык атрымала яна ў спадчыне толькі пустую касу і зруйнаваную гаспадарку. Той, хто так гаворыць, на маю думку, зусім сляпы, бо нічога не бачыць або не хоча бачыць. Памятаю, як пасля вайны выглядалі сапраўдныя руіны. Трэба было тады сапраўды будаваць з нуля амаль усё: гарады, дарогі, прадпрыемствы. Не было тады машынаў, электрычнасці, школаў, аховы здароўя. Былі толькі людзі. Трэба было пераканаць іх, каб далі з сябе ўсё дзеля адбудовы краіны. Але як пераканаць і чым пераканаць людзей да цяжкай працы амаль задарма? Рабочым не было нават дзе праспацца. Гатэлі заступалі баракі, ложак — жменька саломы пад галавой. Людзі бачылі, якая склалася сітуацыя і разумелі, што толькі іх праца дае нейкія перспектывы на будучыню. Рабочыя пасля працы ў фабрыках, вучні пасля заняткаў у школе ішлі грамадскім чынам вазіць цэглу, замятаць вуліцу. Няхай сёння хтось пераканае людзей да такой ахвярнасці.

На маю думку новая ўлада, якая настала пару гадоў таму назад, давяла да сапраўднай руіны нашу гаспадарку.

На дарогах, якія будавалі камуністы, штораз больш калдобін, палі зарастаюць пустазеллем, закрываюцца фабрыкі, штораз больш беспрацоўных і жабракоў каля касцёлаў ці на вуліцы. Тое, што пабудавалі камуністы, новыя міністры распрадаюць направа і налева. Багацеюць усялякія махляры і жулікі, а тыя, што сумленна працавалі некалькі дзесяткаў гадоў, думаюць толькі, як пражыць да канца месяца.

Жыццё цяпер стала не толькі вельмі цяжкім, але і бесперспектыўным, без надзеі на будучыню. Толькі на тэлебачанні ды па радыё чуюцца энтузіязныя галасы, як добра нам цяпер, калі прапаў камунізм, а было б яшчэ лепей, калі б яго ніколі не было. Цікава, што яны скажуць, калі дарэшты распрададуць немцам ды амерыканцам тое, што збудавалі камуністы.

**МІКАЛАЙ ПУЧКА**

## НАВУЧЫЛІ ГАННУ ПРАЦАВАЦЬ

У Манькі і Андрэя было чацвёра дзяцей. Трое было працавітых, а чацвертае — лянівае.

— Не ведаем, дачушка, — заўсёды паўтаралі Ганне бацькі, — як ты жыць будзеш? Хто на цябе рабіць будзе?

Гады ішлі, і Ганна выйшла замуж у суседнюю вёску.

У доме свёкраў таксама нічога не хацела рабіць. Свёкры і муж Ганны не любілі сварыцца і таму прыдумалі, як прывучыць нявестку да работы.

— Ад сёння, — сказаў аднойчы свёкар, — будзе так: колькі хто будзе рабіць, толькі будзе і есці.

— Што ты сёння рабіла? — спытаў жонку.

— Есці наварыла, у хаце прыбрала, каровы падаіла, свінням дала...

— На табе дзве скібкі хлеба і тры апалонікі супу.

— А што ты рабіў? — спытаў сына.

— Вам, тата, памог жывёлу напаіць і накарміць.

— На табе дзве скібкі хлеба і чатыры апалонікі супу. — А ты што рабіла? — спытаў стары нявестку.

— Нічога.

— Няма табе есці! А сабе бяру найбольш, бо я — галава сям'і і мушу ўсяго даглядаць.

Цэлы дзень Ганна была галодная. На наступны дзень падмяла хату. Калі свёкар запытаў, што хто зрабіў, сказала аб гэтым. Даў ёй трохі з'есці...

На трэці дзень Ганна пачала рабіць усё. Тады атрымала есці столькі, што і свякруха.

Праз нейкія два-тры тыдні прыехалі ў госці яе бацькі і ўласным вачам не верац! Убачыла Ганна бацькоў і кінулася да іх:

— Вы, тату, хоць венічак звяжыце, а вы, мама падлогу падмяціце, бо... есці вам не дадуць!

**АЎРОРА**

## ВОСЬ, КАБ ЛЕС ЗАШУМЕЎ

Каля вёскі Стараберазова, ляжаць палеткі новаберазоўскага ПГРа. Некалькі дзесяткаў год назад на іх красаваўся жоўценькі рапс ды каласілася залацістая пшаніца. Аж глядзець было прыемна. А цяпер? Палеткі незавораныя, запушчаны, бяспанскія. Расце на іх толькі адзін чартапалох (так гэтае пустазелле называюць мясцовыя жыхары). Нічога дзіўнага, бо вакол усё змянілася і тут таксама перамены пайшлі. Калектыўная гаспадарка развалілася. Няма гаспадара. Палеткі ляжаць аблогам. Ведаеце, што аднойчы я падумаў? Мой сябра Панфілюк праўду пісаў, што на запушчаных палетках найлепш лес пасадзіць. А чаму ў нас гэтага не зрабіць? Добрая задума! Лес зашуміць навокал, паветра зменіцца, асяроддзе чысцейшым стане. Тады грыбы і ягады сыпануць і зарабіць будзе можна. А то паедзеш у чужы лес і думаеш, каб хто цябе не прагнаў. Ведаеце, даражэнькія, можа з гэтага што будзе. А чаму казулі па апушчаных палетках гойсаюць? Звярына, напэўна, лепш ад людзей будучыню прадчувае. Ну і для сябра Байко даўжэйшы маршрут для ваджэння валютных экскурсій быў бы. Хтосьці скажа: а што з хлебам будзе? З хлебам, з хлебам. Пра хлеб няхай у вас галава не баліць, Захад прышле. Цяпер мы з ім за адно. Ужо і так хутка ў еўрапейскай садружнасці будзем. Хлеба ў нас тады будзе, як калісь у Расіі — поўныя амбары. А лес аднак садзіць трэба. Хай лес шуміць.

**Г. МАРОЗ**

## БУСЛЫ НЕ ПАДВЯЛІ

— Цікава, ці буслы навесну ізноў тут паселяцца? — задумваліся белавежцы восенню мінулага года, маючы на ўвазе будынак, у якім зараз змяшчаюцца пошта і дзетдом. Гняздо, якое буслы зрабілі на вільчаку яшчэ ў міжваенны перыяд, дасягнула рэдка спатыканых памераў. Яно звяртала ўвагу кожнага турыста, які праходзіў побач. А ўжо асабліва замежнага! Колькі разоў я сам бачыў, як яны рабілі фотаздымкі. Шмат з іх потым траплялі на старонкі газет, альбомаў, даведнікаў, прыродазнаўчых кніжак — краёвых і замежных. Увекавечвалі гняздо на кінастужцы таксама шматлікія фільмоўцы. Адным словам — яно было атрыкцыёнам Белавежы.

І, вось, у палове верасня 1991 г., гняздо нечакана звалілася! На шчасце, буслоў на ім ужо ад пару тыдняў не было — адляцелі ў цёплыя краі. Некаторыя падазравалі, што гняздо „памаглі" зляцець бляхары, якія ў той час перакрывалі будынак. Але тыя заракаліся, што гняздо не чапалі. Пасведчыў гэта і адзін з працаўнікоў дзетдома, які прыглядаўся іхняй працы. Як бы там ні было — факт аставаўся фактам — гняздо было разбуранае!

Надышоў урэшце красавік. Пачалі вяртацца буслы. Прыляцелі і тыя з разваленага гнязда. Прыселі на голым месцы і некалькі дзён адпачывалі. Потым... забраліся за будаванне новага жылля. Усё ж такі! Людзям палягчэла на сэрцах. Ізноў будзе гняздо! Буслы не падвялі.

Трэба сказаць, што наогул у Белавежы часта сустракаюцца гэтыя птушкі. Гнёзды яны будуюць пераважна на клунях, але здараецца так, як у Падалянах II, што і на энергетычным слупе.

**ПЁТР БАЙКО**




### НЕ ЗАБЫВАЮ

У 14 нумары „Нівы" Мікалай Лук'янюк заклікае колішніх карэспандэнтаў не забываць пра наш тыднёвік. Я ў „Ніву" стаў пісаць з 1956 года і пішу да гэтай пары. Хаця здараліся ў маёй карэспандэнцкай дзейнасці даўжэйшыя перапынкі, усё ж „Ніву" не забываю.

Нам трэба шанаваць сваю родную беларускую мову, свае традыцыі, бо можа здарыцца і такое, што хутка пачнуць нам співаць „Рэвэ та стогне Буг шырокий..." З перадачы „Украінская думка" я даведаўся, што ўкраінцы ёсць у Міхалове і Гарадку. Мне ўжо амаль 70 гадоў, але пра ўкраінцаў у нашым наваколлі пачуў я ўпершыню. А калі журналісты гэтай радыёперадачы заявяць, што ўкраінцы кампактна засяляюць не толькі паўночнае Падляшша, але і ваколіцы Беластока, Саколкі, Дубровы ці Гародні, тады співаць прыдзецца так:

„Ад Бандароў аж па Індуру
Спявайце, братцы, родны песні
Пад украінскую бандуру."

А ў „Ніве" н-р 15, той самы М. Лук'янюк пытаецца, колькі каштавала перайменаванне вуліц у Беластоку. Мяне гэта не цікавіць, але пры нагодзе парадкавання горада прапаную, каб улады ліквідавалі гарадскі туалет ля Святамікалаеўскай царквы. Не там яму месца — гэта па-першае, а падругое: знаходзіцца ён там быццам насмешка над праваслаўнымі, бо пры ніводным беластоцкім касцёле такога „стратэгічнага аб'екта" няма. А можа нашы царкоўныя ўлады запатрабуюць ліквідаваць гэты помнік непавагі да праваслаўнага храма?

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## ЯНЫ ДАПАМАГЛІ ПРЫ ПАБУДОВЕ МУЗЕЯ

Зараз тэмп пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы бывае то паскараецца, то зноў запавольваецца. Нядаўна пісалі мы пра першых ахвяравальнікаў будаўнічай сталяркі, між іншым дзвярэй, паркету, балюстрады.

Прыводзім прозвішчы чарговых ахвяравальнікаў драўляных вырабаў для музея і тых, хто апошнім часам шмат працаваў грамадска пры яго пабудове. Вось яны: Аляксандр Кандрацюк выканаў драўляныя поручні-балюстрады, вартыя тры мільёны злотых, Ян Верамюк з Дубін перадаў музею мазаіку за два мільёны злотых, а Ян і Вольга Васілюкі са Звадзецкіх каля Навасадаў — дзесяткі метраў паркету на суму васьмі мільёнаў злотых, ды Васіль Грыц з Гайнаўкі выканаў вокны, вартыя шэсць мільёнаў злотых. Уладзімір Ваўранюк з Гайнаўкі памаляваў некаторыя музейныя памяшканні. Кошт яго працы ацэнена на чатыры мільёны злотых.

Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея шчыра дзякуе ўсім, хто дапамог у грашовай ці матэрыяльнай форме.

**(яц)**

# ПАНАРАМА ЧЫЖОЎСКАЙ ГМІНЫ

*(пачатак у папярэднім нумары)*

### Сельская гаспадарка

У Чыжоўскай гміне сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць плошчу ў адзінаццаць тысяч гектараў. На працягу дваццаці апошніх гадоў колькасць сялянскіх гаспадарак паменшылася з 1500 да 950. Аднaчасова некаторыя сяляне значна павялічылі свае гаспадаркі з сямі гектараў да 20-, 30- і 40-гектарных. Сярод іх — Ян Адамчук і Васіль Франкоўскі з Чыжоў, Пётр Фірсюк і Мікалай Кобац з Кленікаў, Андрэй Галёнка і Віктар Яканюк з Асоўкі ды Анатоль Пракапюк з Вулькі.

Глебы тут даволі ўраджайныя. Дзе было неабходна, там іх меліяравалі. Меліярацыі чакаюць яшчэ ў салэцтве Курашава і Вулька. Сяляне сеюць менш жыта, але затое больш пшаніцы. Абсяваюць ёю 1765 гектараў ворыўнай плошчы, а жытам — 840 га. Як вядома, гэтая збожжавая культура мае большыя запатрабаванні да глебы і агракультуры. У апошнія гады наглядаецца імкненне да павелічэння пасеваў пшаніцы з увагі на яе рэнтабельнасць.

Тут таксама вялікія пасевы бульбы — 740 га. Асноўнымі гатункамі з'яўляюцца бульба чырвоная і белая. Хуткаспелых гатункаў сустракаецца мала. Больш устойлівая супраць гніцця падчас зімовага захоўвання чырвоная бульба займае найбольшыя плошчы.

Чыжоўская гміна мае спрыяльныя геаграфічныя ўмовы для развядзення, напрыклад, алейных культур — рапсу (рапаку) і цукровых буракоў. Сеюць іх 70 гектараў. Пры спрыяльных кліматычных умовах лепшы ўраджай валакна сярод тэхнічных культур дае лён-даўгунец. Аднак больш устойлівы лён нізкарослы, грубавалакністы (гатункі льну-кудраша). У згаданай гміне вырошчваюць таксама кукурузу — сорак гектараў.

Урэшце, неабходна хоць коратка затрымацца над такой культурай, як лубін таму, што можа ён вырошчвацца на кожных глебах. Пасевы лубіну маюць велізарнае значэнне ў севазвароце. Як зялёны навоз (лубін горкі) ён высяваецца і заворваецца тут, галоўным чынам, пад азімыя культуры. Безалкалоідныя гатункі лубіну разводзяцца на корм для жывёлы. Кармавы лубін — займае ён тут 300-гектарную плошчу — распаўсюджаны ў Чыжоўскай гміне між іншым таму, што тут мала натуральных сенажацяў. Таму распаўсюджваюцца і кармавыя травы, сярод іх канюшына (350 га), віка і сырадэля (200 га абедзвюх культур). Кармавыя травы сеюць найчасцей дзеля атрымання кармоў на зіму. Пасля іх уборкі глеба найчасцей заворваецца пад азімыя культуры.

### Агародніцтва і садоўніцтва

Аддзяліць агародніцтва ад садоўніцтва вельмі цяжка, таму што на прысядзібных агародах часта растуць фруктовыя дрэвы, аў садах садзяцца агародніныя культуры. Тут жа, на больш вільготных глебах, разводзяцца капуста, цыбуля, агуркі, морква, буракі, памідоры, дыні і многія іншыя культуры. Сушэйшыя часткі агарода заняты пад сады, кармавыя травы, бульбу, трускалкі. Адлегласць ад гарадоў, адсутнасць перапрацовачных прадпрыемстваў на месцы адмоўна ўздзейнічаюць на развіццё агародніцтва і садоўніцтва. Сяляне таму і не павялічваюць плошчы пад агародамі і садамі.

У Чыжоўскай гміне пад агароднінымі культурамі і садамі занята звыш 70 гектараў. Асноўнымі пародамі фруктовых дрэваў з'яўляюцца яблыня, прадстаўленая гатункамі: антонаўка, наліўка, бурачка, лігіроўка і іншыя; груша — бялушка, круглоўка, бэра, полька, дзічка; сліва, вішня і чарэшня. Садаводства даволі папулярнае ў вёсцы Курашава. Шмат агародніны ды трускалак вырошчваюць у Ляневе і Падрэчанах.

### Дэмаграфія гміны

У Чыжоўскай гміне пражывае 3500 чалавек. Для параўнання: дваццаць гадоў таму ў гміне налічвалася 5300 асоб і дзесяць гадоў таму — 5000. Жыхары гміны вядуць 950 гаспадарак. Варта прыгадаць, што ў 1973 годзе было іх паўтары тысячы.

Сярод 3500 жыхароў трэцяя іх частка — пажылыя людзі. Налічваецца каля 500 інвалідаў. Больш за 90 год мае пяць чалавек. Сярод найстарэйшых жыхароў — Фёдар Александрук — 98 год і Галена Ліцкевіч — 97 год. Абое пражываюць у Чыжах.

Цяпер у летапісе Чыжоўскай парафіі фіксуецца ў сярэднім пятнаццаць хрэсьбінаў, дванаццаць шлюбаў і каля трыццаці пахаванняў у год.

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

# ЯГЕЛОНСКІ ЦІ БЕЛАРУСКІ?

Прачытаўшы „Адкрыты ліст аўстралійскім суайчыннікам” спадара А. Трусава, (ЛіМ ад 29 студзеня 1993 г.), дзіву даешся, як чалавек з такімі кваліфікацыямі і тытуламі (абсалютна ашаламляльнымі), мог так пераблытаць гарох з капустай. Дзе сэнс у гэтых сцвярджэннях (цытую): „Сапраўды, калі мы адкрыем замежныя даведнікі і слоўнікі, **асабліва польскія** (падкрэслена мною — Ул. Ш.), то знойдзем там наступныя вызначэнні: латарынгскі крыж, які падобны да крыжа на нашым дзяржаўным гербе, і славутае „двукрыжжа” пад назваю літоўскага альбо **ягелонскага** крыжа” (падкр. мною, але звярніце ўвагу: крыж літоўскі або ягелонскі — гэта славутае „двукрыжжа”). Цытую далей: „А вось такога вызначэння, як „крыж Ярылы”, вы не знойдзеце на старонках сур’ёзных энцыклапедычных выданняў. І гэта невыпадкова, бо паганскі бог Ярыла ніколі не меў шчыта з хрысціянскім крыжам”. Далей чытаем такое: „Потым дзяржаўны герб ВКЛ з патрыяршым крыжам мы бачым спачатку на надмагіллі Ягайлы ў Вавельскім кафедральным касцёле, а потым сярод фрэсак у капліцы св. Крыжа пры Вавельскім касцёле, якая была распісана ў 1470 годзе. Дарэчы, менавіта тады гэты крыж атрымаў назву **ягелонскага**, (падкр. мною; які ж тады сапраўды ягелонскі крыж?), ягоную выяву можна ўбачыць на саркафагу Казіміра Ягелончыка. Такім чынам, у аснове сучаснага дзяржаўнага герба Беларусі ляжыць першы гатычны варыянт герба „Пагоня”, які быў пашыраны ў XV ст., у той час, калі ВКЛ дасягнула найбольшага росквіту і аб’ядноўвала ўсю этнаграфічную Беларусь. У XVI ст., асабліва пасля Люблінскай уніі, патрыяршы крыж на шчыце „Пагоні” быў заменены на літоўскі.” Значыцца, вернута „Пагоні” яе гістарычная цягласць. Але тут варта памятаць тое, што ўсе гэтыя змены і перыпетыі „Пагоні” адбываюцца пры двары польскага караля ў польскім Кракаве, і зусім не датычаць Беларусі. Згодна Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, том 3, ст. 432: „Герб Вялікага княства Літоўскага, так званая „Пагоня”, — фігура воіна на белым кані ў шлеме з паднятым над галавой мячом і шчытом з двума залатымі крыжамі на блакітным полі, паявіўся ў 13 ст.” Вось жа: Два залатыя крыжы! Двукрыжжа Ярылы, сімвал паганскага бога сонца, цяпла, святла, дабрабыту, прыплоду... Ён жа і крыж літоўскі, паколькі ў тыя далёкія часы Літва і літоўскі азначалі тое, што сёння азначае Беларусь і беларускі. Жэмайцыя, якая сёння прэтэндуе на назоў Літва і называе сябе Летувой, у XIII ст. нават і не марыла быць у складзе Вялікай Літвы.

Калі польскі кароль Ягайла, ці яго нашчадкі „ягелончыкі” ўздумалі ўвесці ў свой герб „патрыяршы” крыж, дык гэта зусім не азначае, што гэты герб аўтаматычна зрабіўся гербам Вялікага княства Літоўскага, дзе дарэчы ўжо быў іншы вялікі князь, а менавіта Вітаўт Кейстутавіч, і які меў зусім іншыя ад Ягайлы палітычныя імкнекнні і задумы. Чаму польскі кароль Ягайла прыняў „патрыяршы” крыж можна толькі здагадвацца, але найбольш праўдападобна гэта таму, што нягледзячы на ягоны пераход з праваслаўя ў каталіцтва, польскія магнаты і шляхта разам з бальшынёй еўрапейскай арыстакратыі, гаворачы аб Ягайлу ўжывалі тэрмін „брудны літоўскі паганін”, а праваслаўная патрыяршая царква (Канстанцінопаль), зняможаная няспыннымі войнамі з насядаючымі мусульманамі і яшчэ не апраўіўшыся ад наступнага нападу папскіх крыжаносцаў, мусіла амаль пагадзіцца на унію з Рымам. Гэта, відавочна, рабіла „патрыяршы” крыж больш прыемлівым чым Ярылава Двукрыжжа (блага і перарабіць не цяжка, толькі падоўжыць ніжнюю папярочку, і ў вочы падробка не кідаецца). Але, з гэтым самым поспехам Ягайла і ягелончыкі маглі змясціць на шчыце свайго герба і „белага арла”, і кіеўскага „трызуба”, і канстанцінопальскага „двухгаловага арла”, а з дапамогаю спадара А. Трусава і „серп і молат”. Але ніводная з гэтых выяваў конніка не была б „Пагоняй”, як не ёсць і сучасны герб Рэспублікі Беларусь! Бо гэта ёсць латарынгска-славацка-патрыяршы коннік. Вось тут насоўваецца пытанне: ці наш „тытулаваны мудрэц” сам, як тыя пешаходы, заблудзіўся ў трох соснах, ці наўмысна імкнецца „заблудзіць” нас? Бездапаможна блукае паміж латарынгскім крыжам і літоўскім двукрыжжам ды аўтарытэтна намінуе ягелонскімі. Даказвае, што паганскі бог Ярыла ніколі не меў на шчыце хрысціянскага крыжа. Мне здаецца, што гэта вядома ўжо і дзецям у прадшколлі. А можа наш шаноўны навуковец не ведае, што крыж, як такі, быў вынайдзены паганамі, шмат, шмат раней за хрысціянства? Нават і я гэта ведаў, хаця і невук.

Але вось, яшчэ мне цікава; якая нячыстая сіла нясе „кандыдата навук„ у Польшчу, шукаць нашу праўду, калі гэтае праўды хапае і на Беларусі? Шмат захавалася архіваў, шмат беларускіх гарадоў маюць на сваім гербе „Пагоню”, і ўсе яны як адна з Ярылавым Двукрыжжам: Магілёў, Віцебск, Дрыса, Лепель, Полацак, Слуцак, Рэчыца, Сураж, Чэрыкаў і г.д. Афіцыйная палітыка Польшчы ніколі не спрыяла Беларусі і ніколі не асвятляла Беларускую гісторыю праўдзіва, таму да польскіх хронікаў ці летапісаў трэба падыходзіць з засцярогамі, а не прымаць іх за чыстую манету.

Чаму гэтыя „мудрацы ад гісторыі” маўчаць аб Смаленшчыне, Віленшчыне, Беласточчыне, і іншых беларускіх абшарах, украдзеных ад нас Сталіным? Але навальваюцца, як з ланцуга сарваўшыся, на кожнага, хто пасмее выступіць у абарону беларускай праўды. Так яны доўгія гады цкавалі і не давалі ходу Міколу Ермаловічу і Кастусю Тарасаву, а зараз такі мудрэц абрушваецца на нас за справядлівае нашае абурэнне супраць скажэння „Старадаўняй Літоўскай Пагоні”. У нашым „Звароце”, стыль і тон былі зусім лагодныя, мы памылкова лічылі, што „латарынгскі”, ці як тлумачыць А. Трусаў „патрыяршы”, крыж папаў на шчыт „Пагоні” памылкова, але зараз высвятляецца, што гэта загадзя абдуманае, падрыхтаванае фальшаванне! Дзеля чаго? Каму гэта патрэбна? Мы гэтага не ведаем, але адно відавочна: не для беларусаў і не для Беларусі! На мой погляд, такое стаўленне спадара А. Трусава да беларускіх святыняў зусім не адрозніваюцца ад стаўлення „таварыша” Корзуна, які змагаўся супраць „Пагоні” і бел-чырвона-белага сцяга. Той змагаўся супраць прынящця гэтых сімвалаў незалежнасці, а гэты іх скажае — вынік той самы. І метады не зусім розныя: бо той асацыіраваў іх з фашызмам адкрыта, а гэты робіць гэтае „з-пад палы ”, калі падсоўвае пытанне аб маёй службе ў войску: „Ага! Злавіў!” А я яму высвятлю, каб болей не мучыўся няведаннем: служыў я і вучыўся ў войску, якое было створана беларусамі, з беларусаў, дзеля абароны беларусаў! Звалася яно Беларуская краёвая абарона, і гэта Беларускае войска з вялікім гонарам насіла Ярылава Двукрыжжа на пятліцах мундзіраў.

Аб рэшце „падпісантаў”, як з прытоенай пагардай называе іх спадар А. Трусаў, магу сказаць наступнае: усе яны людзі рознага веку і рознай ступені адукацыі. Людзі вельмі сумленныя і шчырыя. Усе яны, нягледзячы на вельмі неспрыяльныя ўмовы на чужыне, а часта нават і варожыя, з гонарам праз усе 50 гадоў эміграцыі неслі на сваіх плячах цяжар беларускай грамадскай працы, не шкадуючы ні сілаў, ні сродкаў. Усе яны з любоўю і гонарам неслі Сцягі Старадаўняй Пагоні яшчэ тады, калі спадар А. Трусаў пазбягаў яе як чорт ладану. Старадаўная літоўская Пагоня з залатым Ярылавым Двукрыжжам на шчыце, гэта якраз тая Пагоня, якую нам пакінулі ў спадчыну нашыя Бацькі і Дзяды! Гэта тая Пагоня, якую зацвердзіў як герб Беларускай Рэспублікі Першы ўсебеларускі кангрэс і Рада БНР! Гэта тая Пагоня, якая красавалася на сцягах слуцкіх паўстанцаў, на сцягах Саюза беларускай моладзі, на сцягах Беларускай краёвай абароны, і скажэнні, якія ўводзіць спадар А. Трусаў, зусім нікому не да спадобы, ды і тлумачэнні, якія ён прыводзіць у сваім артыкуле, зусім не тлумачэнні, а нейкае заблытванне следу. Таму, мы ізноў звяртаемся да Рады Міністраў і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь адкінуць фальшывага ягелонскага конніка, і вярнуць Беларусі сапраўдную старадаўнюю літоўскую Пагоню з залатым Ярылавым Двукрыжыжжам на шчыце!

Заклікаю ўсіх беларусаў Свету, як на Бацькаўшчыне, так і на чужыне, падтрымаць наш пратэст супраць такога фальшавання нашай нацыянальнай сімволікі!

Жыве Беларусь!

**Палкоўнік УЛ. ШНЭК,**
**Мельбурн**

# АБМЕЖАВАНАЯ ПАМЯЦЬ

У н-ры 16 „Нівы” ад 18 красавіка Яўген Мірановіч апублікаваў артыкул „Памяць пра яўрэяў”. Мабыць, спадар Мірановіч успамінае пра яўрэяў у сувязі з 50-ай гадавінай паўстання ў Варшаўскім гета пад кіраўніцтвам Яўрэйскай баявой арганізацыі, гадавінай урачыста ўшанаванай ва ўсёй Польшчы і шмат іншых краінах усяго свету? Аўтар аб гэтым не ўспамінае, можа і не ведае, што яўрэйскія баявікі змагаліся таксама і ў Беластоцкім гета.

Напачатку аўтар піша: „У свядомасці грамадства бытуе вобраз яўрэя як хітрага, цынічнага чалавека, які не ганьбаваўся працай, а толькі выкарыстоўваў працавіты хрысціянскі народ...”

З гэтага пачатку можна было б спадзявацца, што далей аўтар абвяргае гэтакі погляд на яўрэяў. Але ж зусім наадварот: найбольшая частка далейшага тэксту прысвячаецца ўспамінам аб яўрэйскіх гандлярах з Заблудава. З вобраза, які намаляваў спадар Мірановіч, паўстае ўражанне, што ў Заблудаве не было аніводнага яўрэя-рамесніка ці іншага працоўнага яўрэя. Магчыма. Спадар Мірановіч бязумоўна лепш за мяне ведае, што было ў Заблудаве, хаця... хаця пішучы гэта я ўспомніў, што ў 1925 годзе я сядзеў у адзіночнай камеры беластоцкай турмы з яўрэйскім шаўцом з Заблудава. Але і то праўда, што адзіночны прыклад не доказ. Істотна наступнае. Спадар Мірановіч піша: „Перад II сусветнай вайной 20% насельніцтва Беласточчыны складалі яўрэі. У горадзе Беластоку было іх 60% агулу насельніцтва, а ў такіх мястэчках як Гарадок, Крынкі, Заблудаў, Орля, Міхалова, Тыкоцін, Мілейчыцы — нават звыш 80%”.

Цяжка паверыць, што спадар Мірановіч не ведае, што вялікая частка беластоцкіх рабочых тэкстыльнай прамысловасці складалася з яўрэяў, і што шмат тысяч яўрэяў займалася ў іншых промыслах. А ў мінулым у Крынках, Скідалі і іншых мястэчках Беларусі большасць рабочых у гарбарнях на пачатку нашага веку складалі яўрэі. Ужо тады паўстаў супольны яўрэйска-беларуска-польскі саюз рабочых гэтай прамысловасці, а ў кнізе, прысвечанай іх супольнай барацьбе супроць яўрэйскіх фабрыкантаў апісваецца іх забастоўка (маю гэтую кнігу).

І яшчэ адно: праф. Ежы Тамашэўскі, пішучы аб выніках перапісу насельніцтва Польшчы ў 1931 годзе, прыводзіць лічбы яўрэйскіх рабочых у паасобных галінах прамысловасці: у тэкстыльнай — 45,1 тысяч; у гарбарна-скураной — 18,2 тысяч; швейнай — 104,3 тысяч; металаапрацоўчай — 19,4 тысяч; сельскагаспадарчай — 22 тысячы... і г.д. *

Ведаю, што „Ніва” не любіць доўгіх артыкулаў і таму канчаю толькі адной заўвагай: памяць — вельмі добрая рыса, але пішучы аб бытуючых поглядах на яўрэяў, нельга абмяжоўвацца адным Заблудавам.

**СТЭФАН БЕРГМАН,**
**Варшава**

---

* гл. J. Tomaszewski, „Rzeczpospolita wielu narodów”, Warszawa, 1987.

**Ад рэдактара:**

**Паважаны спадар Стэфан Бергман,**

магчыма, што я не надта зразумела прадставіў тэму. Пісаў пра вобраз яўрэя, які найчасцей узнікае ў выніку вуснага пераказу пакалення, якое мела непасрэдны кантакт з яўрэйскім народам. Зразумела, што гэта абмежаваны вобраз, але ён такі ёсць, а не іншы.

Ведаю я, спадар Бергман, нешта пра яўрэйскіх рамеснікаў, рабочых, лекараў, настаўнікаў, жабракоў і фабрыкантаў, а нават сялян хаця б з кніжак успомненага Вамі прафесара Тамашэўскага. Але калі жыхар вёскі прыязджаў ў Заблудаў, Крынкі ці Міхалова, найчасцей не бачыў ён працы ні рабочых, ні настаўнікаў, ні іншых. Атмасферу мястэчка стваралі крамы і іх уласнікі.

Не пісаў я свайго артыкула пра яўрэяў, але пра памяць аб іх, якая бытуе ў свядомасці грамадства. Не магу браць на сябе цэлай адказнасці за тое, што яна моцна абмежаваная, хаця, як журналіст, я мог бы зрабіць больш, каб змяніць гэтую рэчаіснасць.

Закідаеце мне, спадар Бергман, што не ўспамінаю пра 50-ю гадавіну паўстання ў Варшаўскім гета, і пра змаганне беластоцкіх яўрэяў магчыма нічога не ведаю, але ацэнка маёй публіцыстыкі — гэта ўжо Вашая праблема. Я лічу аднак, што ўшанаваць чыюсці памяць можам пішучы не толькі пра афіцыйныя акадэміі, арганізаваныя часам з кан’юнктурных прычын. Яўрэйскае грамадства на Беласточчыне заслужыла, каб патрактаваць яго больш сур’ёзна і каб памяць пра яго існавала не толькі ў чыноўніцкіх календарах або ў галовах адурманеных нацыяналізмам палітыкаў.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# З мінулага тыдня

**У Следчым арыштце ў Беластоку** была падпісана польска-беларуская дамова аб супрацоўніцтве ў галіне выконвання пакаранняў за крымінальныя злачынствы. З польскага боку дамову падпісаў дырэктар Цэнтральнага ўпраўлення турэмных установ **Павел Мачыдлоўскі**, а з беларускага — віцэ-міністр унутраных спраў **Барыс Матусевіч**.

Нядаўна была адкрыта **пастаянная чыгуначная лінія Беласток-Брэст.** Цягнік выязджае з Беластока а гадз. 5.44 і прыязджае ў Брэст а 14.50; назад гэты цягнік выязджае а 15.50 і прыязджае ў Беласток а 20.02. Пашпартна-мытны кантроль праводзіцца на станцыі Чаромха. На шляху Беласток-Чаромха-Беласток падарожнічаць могуць пасажыры з білетамі краёвай камунікацыі.

**Дакументальны фільм Марцэля Лазінскага "89 мм ад Еўропы"**, які выпусціла кінастудыя "Калейдаскоп", заваяваў галоўны прыз на кінафестывалі ў Абергаўзене і ўзнагароду International Federation of Film Societies. "89 мм ад Еўропы" - гэта рэпартаж з Брэста, гранічнага горада паміж Польшчай і былым СССР, дзе пачынаюцца шырэйшыя рэйкі. Каб цягнікі маглі ехаць далей, беларускія чыгуначнікі кожнага дня павінны мяняць некалькі тысяч восей з коламі пад вагонамі.

**На апошняй сесіі Гарадской рады ў Гайнаўцы** адзін з радных прапанаваў вотум недаверу Управе горада. Раней з такой жа прапановай выступіла Тэрытарыяльная каардынацыйная камісія прафсаюзаў "Салідарнасць", якая дзейнічае ў гэтым горадзе. **Уладзіслаў Віткоўскі**, старшыня Гарадской рады, паведаміў, што прапанову абмяркоўвае Рэвізійная камісія, а Гарадская рада разглядаць яе будзе на чарговай сесіі ў чэрвені.

# НАШЫ КАРАНІ

## LII. ПАНІЖЭННІ

Вакол асобы вялікай княгіні Галены Іванаўны ўжо ў першы дзень яе прыбыцця ў Вільню ў лютым 1495 г. разгарэлася вострая барацьба. Змагаліся за сваю перавагу, за першынство дзве канфесіі і дзве дзяржавы, а ўсё прымала выгляд рэлігійнай вайны. Падчас вянчання, напрыклад, якое адбывалася ў рымска-каталіцкім касцёле св. Станіслава, успыхнула спрэчка паміж шлюбнымі дружынамі маладога і маладое. Дружына маладога рабіла ўсё, каб даць перавагу ў шлюбе каталіцкаму абраду. Пад націскам каталіцкай іерархіі на чале з арцыбіскупам Войцехам Табарам князь Аляксандр забараніў праваслаўнаму мітрапаліту Макарыю прымаць які-колечы ўдзел у вянчанні княжацкай пары. Аднак дружына маладое дамагалася, каб князёўну Галену ўсё ж вянчаў праваслаўны свяшчэннік па праваслаўнаму абраду з праваслаўнымі малітвамі і з трыманнем кароны над яе галавою, а мітрапаліт Макарый па просьбе Галены прысутнічаў на шлюбе. Адразу пасля шлюбу Галенін бок прыпомніў просьбу князя Івана Васілевіча, каб Аляксандр паблізу княжацкага палаца пабудаваў царкву, каб Галене было блізка хадзіць на малебен. Можна меркаваць, што гэта зусім не быў капрыз маскоўскага цара, а прадчуванне яго бацькоўскага сэрца, што і ягонаму любімаму дзіцяці могуць учыніць вялікую крыўду, і нават пазбавіць жыцця ў замаху ці іншым выпадку. І, як мы ўжо ведаем з папярэдніх радкоў, гэтая бацькоўская боязь не была беспадстаўнай. Аднак князь Аляксандр рашуча адмовіўся пабудаваць царкву на віленскім Верхнім замку, спасылаючыся на пастановы сваіх продкаў, каб у дзяржаве „праваслаўных цэркваў не прыбаўляць”.

Неўзабаве амаль усю праваслаўную світу княгіні, апрача некалькіх духоўных, выслалі ў Маскву, а на яе месца да Галены прыставілі каталіцкае польскае акружэнне. Адначасова папа рымскі Аляксандр VI запатрабаваў ад Аляксандра ў спецыяльным лісце: *„Мы жадаем і забавязваем цябе, каб ты, нягледзячы на дадзеныя абяцанні і прысягі, ад якіх мы цябе вызваляем, паклапаціўся прымусіць сваю жонку прыняць рымскую веру. Калі ж Галена зноў не згодзіцца, то мы даручаем Віленскаму біскупу, каб ён пераканаваў яе, а ў выпадку неабходнасці прымусіў мерамі касцельнага выпраўлення і іншымі законнымі сродкамі. А калі і пасля гэтага застанецца непадатлівай, дык аддзяліў бы яе ад сужыцця з табой і цалкам аддаліў бы ад цябе”.* А ў інструкцыі самому Войцеху Табару і кардыналу Фрыдрыху (роднаму брату князя Аляксандра), арцыбіскупу кракаўскаму папа пісаў, каб у дадатак да адлучэння „ад стала і ложа”, дадаць яшчэ і канфіскацыю маёмасці Галены, як піша гісторык праваслаўнай Царквы, праф. А. Карташоў. Папа на княжацкую маладую пару напусціў тагсама віленскі манаскі ордэн бернардзінцаў, да іх далучыўся былы праваслаўны мітрапаліт Іосіф Балгарыновіч, які адступіўся ад праваслаўя і перайшоў на унію. Не засталася абыякавай у справе навяртання нявесткі і маці Аляксандра, каралева Альжбета, якая дзеля гэтага прыехала з Кракава ў Вільню і рознымі хітрыкамі намагалася завабіць Галену ў касцёл. І ўсё ж Галена не паддалася, устаяла, абаранілася сваёй непахіснасцю ў веры праваслаўнай. І як не задзіўлявацца моцы пачуцця маладой пары, іхняй незвычайнай вытрымцы і сіле волі — яны ж перамаглі ўсю гэтую навалу і засталіся вернымі адзін аднаму, не парушылася ў іх пашана аднаго да веры другога! Гэта былі сапраўды высакародныя, каралеўскія натуры. Здаецца, зусім непатрэбныя былі балючыя напаміны князя маскоўскага Івана ў адным з лістоў да дачкі: *„Але калі, дачка, пахіснешся і прыступіш да рымскае веры, сваёю воляю ці няволяю, то ад Бога загінеш душою, намі асуджана будзеш, а зяцю свайму мы таго не даруем: у нас з ім будзе безупынная вайна”.* Таму што такія напаміны толькі памяншалі незвычайную моц Галены і Аляксандра.

Назіраючы за тым, што дзеялася на вялікакняскім, а затым каралеўскім двары, праваслаўныя князі, магнаты, баяры — тыя, хто жыў па пагранічча з Маскоўскай дзяржавай — разам са сваімі ўладаннямі і падданым насельніцтвам, а тыя, хто жылі ў глыбіні краіны, дык толькі з каштоўнасцямі і вернымі слугамі, сталі масава пераходзіць пад уладу Маскоўскага княства, баючыся быць прымушанымі прыняць каталіцызм ці унію. За некалькі гадоў да Масквы далучылася амаль чацвертая частка Беларускай дзяржавы і значныя абшары Задняпроўскай Украіны. У сувязі з гэтым Аляксандр не стрываў і аб'явіў вайну княству Маскоўскаму. Аднак Аляксандрава войска цярпела адно паражэнне за другім. Урэшце Вільня, сабраўшы ўсе свае сілы пад начальствам гетмана князя Канстанціна Астрожскага, накіравала іх супраць Масквы. У бітве на рэчцы Вядрошы 14 ліпеня 1500 г. Іванавы войскі ўчынілі пагром Аляксандравай арміі: хто не палёг на полі бою, апынуўся ў маскоўскай няволі. Як падае „Хроніка літоўская і жамойцкая”: *„князь Канстанцін Астрожскі у найцяжэйшай турме сядзеў; рукі яму назад выкруцілі і волавам залілі, а ногі закавалі, калі ён на ласкавыя словы князя маскоўскага не хацеў яму прысягнуць* (на вернасць — МГ). *І вось такой цяжкою няволяй* (князь Іван — МГ) *яго да прысягі і вернасці* (сабе) *прымусіў”.* (Ненадоўга, бо ў 1507 г., ужо пасля смерці князя Івана Васілевіча ў 1505 г., К. Астрожскі ўсё ж уцёк у Беларускую дзяржаву).

У выніку гэтага страшнага паражэння Аляксандравай і Галенінай дзяржаве пачаў пагражаць поўны заняпад. Прыйшлося ўжо ў 1503 г. заключыць з Масквою мірнае пагадненне, паводле якога ўсе захопленыя Масквою землі былі замацаваны пераважна за ёю. Страты былі настолькі балючымі, што княгіні Галене давялося перажыць найцяжэйшы, мабыць, у яе жыцці час, бо акружэнне абвінавачвала толькі яе ва ўсіх няшчасцях Аляксандравай дзяржавы. У адным з лістоў яна пісала бацьку ў Маскву: *„Спадар мой кароль, яго маці, браты-каралі, зяці і сёстры, і паны-рада і ўся зямля — усе спадзяваліся, што разам са мною з Масквы ў Літву прыйшло ўсё добрае: вечны мір, шчырая любоў, дружба, дапамога на паганых; а цяпер бачаць усе, што са мною адно ліха да іх выйшла: вайна, бітвы, захоп і спальванне гарадоў і валасцяў, праліццё хрысціянскай крыві, жанчыны сталі ўдовамі, дзеці — сіротамі, палон, лямант, плач, галашэнне! Ці такая літасць і любоў твая да мяне!.. Калі спадар-бацэнька, Бог табе не прыхіліў сэрца ка мне, дочку сваю, пашкадаваць, то нашто мяне з зямлі свае выпусціў і за такога брата свайго выдаваў? Тады б і людзі з-за мяне не гінулі, і кроў хрысціянская не лілася б. Лепш бы мне пад нагамі тваімі ў тваёй зямлі памерці, чым такую славу пра сябе чуць, усе адно толькі і цвярдзяць: дзеля таго ён аддаў дочку сваю ў Літву, каб тым самым зручней зямлю і людзей выглядзець...”* І ўсё ж калі ў 1501 г. Аляксандр быў пакліканы на караля польскага, і ад Галены папа рымскі і польскія касцельныя іерархі катэгарычна запатрабавалі, каб яна перайшла ў каталіцызм, бо інакш яе не карануюць на каралеву, яна не згадзілася здрадзіць праваслаўю, нават коштам кароны. І, як і падаюць хронікі, у дні каранавання мужа Галена ўся ў слёзах не падымалася з каленяў, малілася ў праваслаўнай капліцы ў Вільні. На Вавель жа ўехала толькі праз месяц пасля каранавання мужа. Уся Польшча і Вялікае княства Літоўска-Беларускае ўшаноўвала яе як каралеву, але касцельныя іерархі і вышэйшыя дзяржаўныя чыны лічылі яе ўсяго толькі *„жонкай караля польскага”.*

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# I УСЯЛЕНСКІ САБОР — НІКЕЯ, 325 г.

Усяленскі Сабор з'яўляецца найвышэйшай уладай Царквы на зямлі, якая ажыццяўляецца шляхам дзейнасці Святога Духа (Дз. Ап. 15, 28). На Усяленскіх Саборах высвятлялі і на вечныя часы выращалі ў нязнаных праўдах-догмах сапраўдную навуку Хрысціянскай Царквы, якая не падлягае ніякім зммяненням. На іх таксама прымаліся законы наконт кіравання Царквою, набажэнстваў, а таксама маральных прынцыпаў, якія абавязваюць вернікаў — адным словам хрысціянскага жыцця. Усе Усяленскія саборы галоўным чынам скліканіся дзеля высвятлення і асуджэння розных ерасей.

I Сабор у Нікеі быў скліканы пры імператары Канстанціне Вялікім з прычыны фальшывай навукі прэсвітэра Александрыйскага Касцёла Арыя. Прыняло ў ім удзел 318 епіскапаў, а разам з прэсвітэрамі і дыяканамі ўдзельнічала ў ім каля 2000 чалавек. Між іншым, прысутнічалі ў ім св. Мікалай Цудатворац, св. Афанасій Вялікі (тады яшчэ дыякан), Якуб — епіскап нізібійскі і іншыя. Арый быў адным з найбольш вядомых і адукаваных духоўных Александрыі, але адначасна быў найбольш пыхлівым. Падчас выбару новага епіскапа яго гордасць была ўражана тым, што прэсвітэрам быў выбраны дабратлівы і пакорны Аляксандр. Арый асудзіў пропаведзь новага епіскапа і ў далейшым стаў прапаведаваць сваю навуку. Абвяргаў у ёй Боскасць і давечнае нараджэнне Другой Асобы Святой Тройцы. Навучаў ён, што сын Божы нарадзіўся з Айца ў часе і не з'яўляецца суістотным Богу Айцу, не ёсць ён сапраўдным Богам, а толькі вышэйшай істотай. Сабор асудзіў і адкінуў ерась Арыя і ўмацаваў беспамылковую праўду — догму аб Богу Айцу і Богу Сыне, — „Сын Божы з'яўляецца сапраўдным Богам, народжаным ад Бога Айца перад усімі вякамі і так жа сама вечны, як Бог Айцец, ёсць ён народжаны, а не стораны і суістотны Богу Айцу”. Гэтая догма змешчана ў сямі першых артыкулах „Сімвала Веры”, якія былі ўстаноўлены ў Нікеі.

На I Усяленскім саборы быў устаноўлены тэрмін Пасхі, які выпадае на першую нядзелю пасля першай вясенняй поўні месяца.

А вось некаторыя з 20 канонаў гэтага Сабора:

11. У справе тых, якія адступілі ад веры, хаця не падвяргаліся яны прымусу, ні канфіскацыі маёнтку, і не пагражала ім жыццёвая небяспека ці нешта падобнае, што раней здаралася ў перыяд тыраніі Лікінія, Сабор рашыў аказаць ім ласкавасць, хаця не годны яны гэтай літасці. Тыя ахрышчаныя, што пакаюцца, мусяць на працягу трох гадоў несці пакуту сярод тых, хто слухае Пісанне і сем гадоў — сярод тых, хто кленчаць у царкве, молячы прабачэння; на працягу наступных двух гадоў будзе ім дазволена стаяць паміж народам падчас малітвы, аднак нельга ім прыступаць да Прычасця.

14. Святы і Вялікі Сабор вырашыў, каб упаўшыя катэхумены на працягу трох гадоў неслі пакуту сярод тых, хто слухае Пісанне, а пасля гэтага тэрміну будуць магчы маліцца з катэхуменамі.

20. У сувязі з тым, што трапляюцца тыя, што ў дзень Гасподні (г. зн. у нядзелю — дап. С. Н.) і ў дні сашэсця Святога Духа згібаюць калені, Святы Сабор рашае, дзеля завядзення ва ўсіх епархіях агульнага прынцыпу, што ўсе павінны заносіць Богу малітвы стоячы.

Памяць Святых Айцоў I Усяленскага Сабора Царква адзначае ў сёмую нядзелю пасля Уваскрашэння.

**С. Н.**

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

## НЯПОЎНАЯ БІБЛІЯГРАФІЯ народнага разьбяра з вёскі Канюкі, Рыбалоўскай парафіі, УЛАДЗІМІРА НАУМЮКА

**Wystawa**. Sztuka ludowa powiatu bielskiego, 21.12.1970 r. Bielsk Podlaski ul. Traugutta 11.

**(f)**: Złote ręce. — *Gazeta Białostocka* 1971, il.

**R. W.**: Włodzimierz Naumiuk i jego rzeźby. Nasza wystawa. — *Chłopska Droga* 21.11.1971 r., il.

**Katalog wystawy**. Rzeźby Włodzimierza Naumiuka na tle tkanin białostockich. Warszawa Dom Chłopa, Salony Wystawowe 9.11.-20.11.1971 r. Oprac. Halina Dudowa, ss nlb., il.

**Dudowa Halina**: Rzeźba dla naszego klubu. — *Naprzód* 1-15.12.1971 r. s. 1,4, il.

**(bp)**: Tkaniny białostockie i rzeźby Naumiuka. — *Zielony Sztandar* 25.11.1971 r., il.

**Dudowa Halina**: Rzeźby Włodzimierza Naumiuka. — *Chłopska Droga* 1972 nr 27/2072/, il.

**(CH)**: Wystawa na ludowo (w Ciechanowcu). — *Gazeta Białostocka* 1972, il.

**Widokówka** z Białostocczyzny. — *Rodzina* 16.04.1972 nr 16/608/ s. 3.

**Cjalušecki Janka**: Uladzimir Naumjuk i jaho raz'ba. — *Niva* 21.05.1972.

**Jaworowska Hanna**: Rzeźbiony rodowód. — *Nowa Wieś* 10.06.1973 r. s.8.

**Jabłońska Anna**: Zaklęte drewno. — *Dziennik Ludowy* 6.08.1973 r., il.

**Jaworowska Hanna**: Rzeźbiony rodowód. Dziennikarze „Nowej Wsi” na łamach „GB”. — *Gazeta Białostocka* 18.08.1973 r. nr 226/7020/ s. 1,4, il.

**Siemiatycka Krystyna**: Gdy człowiek ma coś w sercu. — *Kobieta i Życie* 2.09.1973 r., il.

**Pokropek Marian**: Jarmark płocki. Katalog twórców ludowych biorących udział w kiermaszu sztuki ludowej w Płocku w latach 1968-1973. Wyd. Płocki Ośrodek Kultury, Płock 1974, s. 84-85, il.

**Jankowerny Wojciech**: Drewniany świat Naumiuka. — *Tygodnik Kulturalny* 18-25.12.1977 r. nr 51/52 s.6, il.

**Atlas** sztuki ludowej i folkloru w Polsce. Oprac. Marian Pokropek. Wyd. „Arkady”, Warszawa 1978 s. 116, il.

**Wołowski Jacek**: Monografia rzeźbiarza ludowego Włodzimierza Naumiuka. Praca magisterska. Katedra Etnografii Uniwersytetu Warszawskiego, Wydział Historyczny, Warszawa 1979 (maszynopis) ss. 76 + 39 il.

**Katalog wystawy**. Rzeźby Włodzimierza Naumiuka. Warszawskie Centrum Studenckiego Ruchu Naukowego, ul. Mokotowska 48, 22-28.05.1979 r. Oprac. Jacek Wołowski (składanka).

**Hajduk Mikoła**: Talent i dabrynia. — *Niva* 5.01.1982 r. nr 1/1547/ s. 1, 6-7, il.

**Wołowski Jacek**: Włodzimierz Naumiuk. — *Polska Sztuka Ludowa* R. 39:1985 nr 1/2 s. 77-85, il.

**(Katalog)**. Targi sztuki ludowej. Kazimierz n/ Wisłą 1987 ss. nlb., il.

**Karabovič T.**: Narodnyj umilec z Pidljaššja. — *Naše Slovo* 30.08.1987 r. nr 35/1572/ s. 5, il.

**Olbryś Stanisław**: Artysta z Kaniuk. — *Strażak* 1989 r. nr 6/721/ s. 26, foto.

**P. C.**

# НЕПАТРЭБНЫЯ ШКОЛЫ

Выглядае гэта на парадокс, калі чалавек усвядоміць сабе, што асновы асветнай сістэмы на беларускай мове стварылі акупацыйныя нямецкія ўлады падчас І сусветнай вайны. Перад 1914 г. на тэрыторыі Беларусі вялося татальнае змаганне за душы насельніцтва паміж расейцамі і палякамі. Немцы ўпершыню стварылі ўсім нацыянальнасцям аднолькавы юрыдычны шанц развіцця сваёй асветы і культуры. Скарысталі найбольш палякі, якія мелі ўплывы, грошы і інтэлігенцыю. Беларусы, хаця і не мелі такіх козыраў, аднак да кастрычніка 1916 г. змаглі адкрыць 43 школы з беларускай моваі навучання. У Свіслачы дзейнічала настаўніцкая семінарыя, а ў Вільні пачалі друкаваць падручнікі для пачатковых і сярэдніх школ. У студзені 1917 г. толькі ў Беластоцка-Гродзенскай акрузе такіх школ было ўжо 46, год пазней — 79, а на пачатку 1919 г. — 153. Пры канцы 1918 г. на тэрыторыі цэлай Беларусі існавала 350 беларускіх пачатковых школ, 5 гімназій і згаданая настаўніцкая семінарыя.

Школы хутка змянялі палітычную рэчаіснасць. Друкаванае слова стала пасрэднікам паміж інтэлігенцыяй і сялянскім насельніцтвам. Без гэтага асветнага рэнесансу праўдападобна немагчымым было б грамадскае і палітычнае ажыўленне на Беларусі, якое давяло да абвяшчэння яе незалежнасці 25 сакавіка 1918 г.

Падзел Беларусі ў выніку Рыжскага дагавору ў 1921 г. паміж Польшчай і Расіяй абазначаў ліквідацыю таго, што аграмадным намаганнем жменькі інтэлігентаў удалося стварыць падчас нямецкай акупацыі. У расейскай зоне ўплываў, названай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай, у 20-х гадах вялася проста ашаламляючая беларусізацыя, аднак, ад пачатку 30-х гадоў з такім самым энтузіязмам ліквідаваліся ўсе беларускія культурныя, асветныя і палітычныя ўстановы разам з іх стваральнікамі.

II Рэчпаспалітая пачынала сваю асветную палітыку на Беларусі з ліквідацыі беларускага школьніцтва, створанага ў час нямецкай акупацыі. Аднасчасова для настаўнікаў гэтых школ арганізавалі 5 курсаў, на якіх мелі яны пашырыць свае веды. Пасля заканчэння курсаў настаўнікам не прапаноўвалі ніякай працы. Гэтая інтэлігенцыя мела час, але не мела працы і грошай і была расчараваная новай рэчаіснасцю. Так ствараліся кадры беларускіх асветных і палітычных арганізацый, амаль без выключэння крайне апазіцыйных у адносінах да дзяржавы.

Толькі ў Віленскім ваяводстве, дзе ў кіраўніцтве тамашняй кураторыі знайшоўся Браніслаў Тарашкевіч, яшчэ да канца 1921 г. існавала 186 беларускіх школ. Год пазней асталася толькі 31 школа.

У 1922 г. асветныя ўлады зарганізавалі яшчэ адзін курс для беларускіх настаўнікаў, гэтым разам у Кракаве. Пасля яго заканчэння беларусам запрапанавалі працу ў Кялецкім ваяводстве. На ўсход Рэчпаспалітай у той час былі накіраваны тысячы настаўнікаў з Кракава, Познані, Кельцаў, Варшавы, якія разам з вайсковымі асаднікамі мелі ствараць новую этнічную рэчаіснасць заходняй Беларусі.

У 1925 г. было ў Польшчы толькі 3 школы, дзе навучанне вялося на беларускай мове, у якіх вучылася 425 вучняў і 19 школ, дзе беларуская мова навучалася як прадмет. У гэтых апошніх школах вучылася 1683 вучні. Усіх беларускіх дзяцей, якія тады павінны былі хадзіць у школу — паводле афіцыйных падлікаў — было 124851. Абазначае гэта, што толькі 0,35 % дзяцей вучылася на роднай мове, а 1,35 % мела з ёю нейкі кантакт у школе.

Навука ў школе з польскай моваі навучання абмяжоўвалася найчасцей да пазнавання літар, дэкламавання вершаў і спеваў патрыятычных песень. Большасць дзяцей не разумела мовы настаўнікаў і таму замест навучання не мог быць іншы. На Палессі каля 40 % дзяцей увогуле не хадзіла ў школу.

У ліпені 1924 г. Сейм Рэчпаспалітай прыняў пастанову аб арганізацыі школьніцтва для нацыянальных меншасцяў. Праект гэтай пастановы адмоўна быў ацэнены паслами ад меншасцяў, якія падчас галасавання ў знак пратэсту выйшлі з Палаты.

Сеймавая пастанова, хаця і ствараля фармальныя ўмовы для арганізацыі школьніцтва на беларускай мове, мела аднак шмат запісаў, якія давалі мясцовай адміністрацыі магчымасць абмяжоўваць яго існаванне амаль да нуля.

Паводле гэтага права ў ліпені 1924 г. на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства прадбачвалася магчымасць арганізаваць школы з беларускай моваі навучання толькі ў Гродзенскім і Ваўкавыскім паветах. Школа мусіла быць двухмоўнай, калі б бацькі 20 вучняў запатрабавалі навучанне на „дзяржаўнай мове", нягледзячы на колькасць дзяцей-беларусаў. Хапала затым „перакацаць" некалькіх „тутэйшых" і навучанне беларускай мовы ставалася сімвалічным жэстам.

У школе, у якой удалося б арганізаваць навучанне на беларускай мове, такія прадметы як гісторыя, польская мова, геаграфія, веды аб сучаснай Польшчы прадбачвалася навучаць абавязкова на „дзяржаўнай мове".

7 студзеня 1925 г. міністр па справах веравызнанняў і публічнай асветы выдаў распараджэнне, у якім гаварылася, што там, дзе бацькі захочуць, каб навучанне вялося на беларускай мове, павінны яны скласці да 31 снежня дэкларацыі з такім патрабаваннем на наступны год. Да 30 красавіка можна было складаць контрпатрабаванне, каб навучанне вялося на „дзяржаўнай мове". Пад дэкларацыямі бацькі павінны былі ставіць подпісы ў прысутнасці дырэктараў, а іх важнасць пацвярджаў куратар, і ён канчаткова рашаў, якой быць школе. Калі ў 1927 г., у выніку дзейнасці Таварыства беларускай школы масава пачалі наплываць такія дэкларацыі, сцвярджэннем аўтэнтычнасці подпісаў занялася паліцыя. Ведаючы менталітэт беларускага мужыка і страх перад падпісваннем чаго-небудзь, метады гэтыя вельмі хутка спынілі працэс арганізавання школ з беларускай моваі навучання.

Пасол ад „Грамады" Павел Валошын так гаварыў у Сейме наконт юрыдычнага становішча ў справе школаў: „На аснове гэтых махлярскіх пастаноў ніводная беларуская школа не была адкрыта. Нягледзячы на раз'юшаную контрагітацыю і тэрор з боку адміністрацыйных уладаў і мясцовых нацыяналістаў, беларусы склалі 15 тысяч дэкларацыяў з патрабаваннем адкрыць 412 пачатковых школ. Без ніякага рэзультату". У 1926 г. такія дэкларацыі былі складзены ў 1929 школах, але адміністрацыя адгукнулася толькі ў некалькіх справах, ігнаруючы сеймавую пастанову і патрабаванні беларускага насельніцтва.

У гадах 1924-1926 Таварыства беларускай школы звярталася з прашэннем да асветных уладаў Віленскага, Беластоцкага і Навагрудскага ваяводстваў за дазволам ствараць 149 прыватных школ. Кураторы дазволілі адкрыць 15, але і яны не маглі пачаць працу з увагі на прапанаванні, у большасці палітычна падазроных, настаўнікаў.

*(Заканчэнне будзе)*

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# QUO VADIS, БГКТ?

Праўдападобна, перад намі чарговы (XII) З'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Ад апошняга з'езду прайшло больш чатырох з паловай гадоў. За гэты час свет вакол нас зусім перамяніўся. Нават мала хто ведае, як праходзіць справаздачна-выбарная кампанія Беларускага таварыства. Інфармацыя пра гэта ёсць нейкая канфідэнцыяльная (толькі для некаторых асоб, выбраных кіраўніцтвам БГКТ). Выпадкова трапіў мне ў рукі такі канфідэнцыяльны дакумент: „Асновы справаздачна-выбарнай кампаніі" Таварыства, падпісаны Прэзідыумам ГП і выдадзены ў 1992 годзе ў Беластоку. Дзіўныя гэта „асновы кампаніі", бо складаюцца толькі з мізэрнай інфармацыі пра дзейнасць у мінулай кадэнцыі. Няма нічога пра структуру арганізацыі і прынятыя палажэнні кампаніі. Сама інфармацыя павярхоўная, без канкрэтных паказчыкаў, да таго ж нейкая баламутная і напісана з пэўнымі эмоцыямі. Чаму шэфы БГКТ ухіляюцца ад сур'ёзнай ацэнкі дзейнасці свайго Таварыства перад беларускім грамадствам? Можа, ужо дзейнічаюць у канспірацыі? Аднак калі я меў нагоду пазнаёміцца з гэтым „важным" дакументам, дык дазволю некаторыя справы пракаментаваць.

З інфармацыі вынікае, што БГКТ амаль нічога канкрэтнага само не здзейсніла. Роля яго зводзілася найчасцей да кантактаў з рознымі асяродкамі грамадска-культурнай дзейнасці, з настаўніцтвам, размоў з „важнымі" людзьмі і кіравання пастулатаў да ўлад Польшчы і Беларусі. У гадах 1989/90 Таварыства атрымала з Міністэрства культуры і мастацтва даволі вялікія сродкі, але іх чамусьці не выкарыстала. Але чаму? Пасля былі абмежаваныя дзяржаўныя датацыі і БГКТ арганізавала ў 1992 годзе дзевяць фэстынаў і Купалле ў Белавежы. Традыцыйна праводзіліся агляды „Беларуская песня". У інфармацыі мнагавата пішацца пра „беларускае школьніцтва" на Беласточчыне, якога ў сапраўднасці няма. Як на самаіронію сказана „...па сутнасці адзіным нашым партнёрам (зн. Таварыства) у культурна-асветніцкай дзейнасці з'яўляецца беларускае настаўніцтва..." Можа эфектам таго і ёсць пастаянны заняпад вывучання роднай мовы беларускімі дзяцьмі? Аўтары інфармацыі наракаюць, што „Ніва" ўжо не орган ГП БГКТ і чакае „гібелі" газеты. „Беларускі каляндар на 1993 год", які надалей знаходзіцца пад апекай кіраўніцтва Таварыства, з'явіўся ў продажы толькі ў канцы красавіка. А чаму нічога не ўспамінаецца пра камп'ютэрнае абсталяванне для друку? Многа месяца прысвечваецца пабудове беларускага музея ў Гайнаўцы, але чамусьці не заўважаецца пры тым ролі Грамадскага камітэта пабудовы гэтага музея. Вельмі часта БГКТ кантактавалася з Беларуссю, але эфекты гэтага мізэрныя. Ёсць і крыўда да БДА за тое, што БГКТ развальваецца і кампраметуецца. А ці няўдачы самога БДА — гэта віна Таварыства, ці іншай арганізацыі?

У канцы дакумента ёсць шмат высноў і прапаноў (з чаго і каму?). З іх можна дадумацца, што БГКТ ідзе ў добрым напрамку. Цікава толькі, ці „вядучыя" Таварыства, не трапілі часам цяпер у тупік, і каб самым не прапасці, шукаюць яшчэ наіўных ісці за імі?

У сапраўднасці, факты сведчаць аб драматычнай сітуацыі БГКТ і наогул беларусаў у Польшчы. Я даволі многа гадоў з'яўляюся сведкам дзейнасці Таварыства і актыўным яго дзеячом. З 1 студзеня г.г. быў я звольнены з пасады штатнага працаўніка ГП БГКТ, так як і іншыя, па эканамічна-фінансавых прычынах. Яшчэ да 1991 года, калі „шумеў" сакратар Віктар Стахвюк, у Таварыстве даволі многа канкрэтнага рабілася. Потым запанавала „сардэчная" атмасфера ў „дружнай кампаніі" кіраўніцтва.

А што прынясе нам XII з'езд БГКТ? Хто на ім будзе? Ці атрымаем сапраўдны адказ на пытанне пастаўленае ў загалоўку?

**ЯН МОРДАНЬ**

На спартыўнай ніве

## НАЙЛЕПШЫЯ БЕГУНЫ

У Беластоку адбыліся ваяводскія спаборніцтвы лепшых бегуноў з падставовых школ з усёй Беласточчыны.

Сярод дзяўчат на 500-метровай дыстанцыі першае месца заняла Анна Краснапольская з Падставовай школы ў Нараўцы. На 1000-метровай дыстанцыі другое месца „заваявала" Эва Петручук, таксама з Падставовай школы ў Нараўцы!

Сярод юнакоў на 1500-метровай дыстанцыі найлепшымі бегунамі былі: Тамаш Дамброўскі з Падставовай школы ў Бельску-Падляшскім — першае месца, Мацей Савіцкі з ПШ у Саколцы — другое месца і Норберт Кучко з ПШ у Гайнаўцы — трэцяе месца.

**(яц)**

## Czasopis

**У МАІ**

**Ю. Хмялеўскі і Ю. Каліна** даюць ацэнку стану арганізацыйнага жыцця беларусаў у Польшчы ў сувязі з ідэалагічнымі і арганізацыйнымі падзеямі ў асяроддзі на працягу апошніх некалькіх гадоў.

**А. Латышонак** змяшчае крытычную рэцэнзію на кніжку А. Судала „Jak Polska nie mogła być Polską. Kulisy IV rozbioru".

**А. Гаўрылюк** піша пра Яна Палавянюка, ураджэнца Бельска-Падляшскага, які робіць дырыжорскую кар'еру ў Ольштыне.

**Славамір Іванюк** прыводзіць пастанову Прэзідыума Павятовай рады нарадовай у Бельску-Падляшскім ад 1955 года „ў справе дзейнасці сярод беларускага насельніцтва на тэрыторыі павета".

Апрача таго: хроніка, крыжаванкі, пастаянныя рубрыкі і іншыя матэрыялы.

**Ю. К.**

## АБ'ЯВА

Wojewódzki Ośrodek Animacji Kultury w Białymstoku uprzejmie informuje, iż organizuje odpłatny 2-letni Instruktorski Kurs Kwalifikacyjny z dziedziny tańca w dwóch specjalizacjach: taniec towarzyski i taniec współczesny. Plan nauczania Tanecznego Kursu Kwalifikacyjnego przewiduje 600 godz. (4 semestry).

Absolwenci uzyskają pełne kwalifikacje zawodowe do prowadzenia zespołów tanecznych.

Warunkiem przyjęcia jest ukończenie szkoły średniej, wiek 18-40 lat i stwierdzone egzaminem wstępnym predyspozycje muzyczno-ruchowe. Egzaminy wstępne przewiduje się w połowie czerwca br.

Wszelkich informacji udziela Zespół Organizacyjno-Programowy i Doskonalenia Kadr WOAK przy ul. Kilińskiego 8, pokój 104, tel. 328-652 w. 15 i 321-636.

**ZAPRASZAMY!**

## ЗАПРАШЭННЕ НА КАНЦЭРТ

Гурт "Маланка" з Бельска-Падляшскага запрашае аматараў беларускай песні на канцэрты, якія адбудуцца ў нядзелю 16 мая ў Дашах (а гадз. 14[00]) і ў Кляшчэлях (а 16[00]).

ЯН ЧЫКВІН

# ПРАЗ ПЕЙЗАЖЫ ЧАСУ

Стаім на парозе прыгожага, познавясенняга свята — трыццаціпяцігоддзя Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Польшчы. Гэта, як ні глядзі, доўгі кавалак часу, ладны прамежак гісторыі, якая пачалася фармальна ў 1958 годзе. А папраўдзе яшчэ раней — у міжваенны перыяд, калі Беласток быў часткай Беларусі, калі тут бывалі і Купала, і Танк... На жаль, гісторыя гэта яшчэ не поўнасцю, як думаю, усвядомлена даследчыкамі, яшчэ грунтоўна не апісана. А гэта ж гісторыя ўжо настолькі разнастайная і багатая зместам ды літаратурна-эстэтычнымі фактамі, што гаварыць аб ёй трэба зусім паважна.

Дык што істотнага зроблена паміж датамі 1958-1993, якія вызначаюць радыус дзеяння „Белавежы"? Членамі Аб'яднання праведзена пару добрых тысяч аўтарскіх сустрэч у так многіх гарадах і мясцовасцях, што давядзецца абмежавацца толькі пералікам краін: Польшча, Беларусь, Расія, Бельгія, Амерыка, Канада, Англія. Дзесяткі і дзесяткі творчых семінараў, на якіх часта прысутнічалі і польскія літаратары ды славісты, і беларуская пісьменнікі ды навукоўцы. Чатырыста змешчаных у „Ніве" Літаратурных старонак, на якіх апублікавана столькі твораў, што каб выдаць іх асобнай кнігай, то па аб'ёму яна мела б каля трох тысяч лістоў. І найважнейшае: „белавежцы" выдалі звыш шасцідзесяці сваіх аўтарскіх кніг прозы і паэзіі, з якіх ледзьве не адну трэцюю ведае ў перакладзе польскі чытач. Да таго пра творчасць „белавежцаў" паявілася незлічоная колькасць артыкулаў, рэцэнзій, доследаў. Шмат звестак маецца пра іх і ў літаратурных энцыклапедыях, даведніках, слоўніках, навуковых апрацоўках, падручніках — на беларускай, польскай, англійскай і нямецкай мовах.

Усе гэтыя, рэдкай шчырасці творы, факты і падзеі нашага літаратурнага жыцця нясуць на сабе адбітак свайго часу. Яны з'яўляюцца своеасаблівым люстэркам, у якім у значнай ступені адбіваецца аблічча беларускага насельніцтва з яго добрымі ды благімі рысамі характару, яго менталітэт, палітычныя ды грамадскія ідэалы, вера, спадзяванні. Творчасцю многіх сваіх членаў „Белавежа" вызначыла граніцы і стварыла пачуццё супольнасці лёсу і гісторыі тутэйшага народу.

Напярэдадні юбілею хочацца хоць з большага пагрупаваць шматлікасць нашых дзеянняў, знайсці для іх вузлавыя моманты, апорныя пункты. Тым болей, што сёння кожны ведае або прадчувае, якім той трыццаціпяцігадовы шлях быў неаднародным, як ён — заснежаны ад пейзажу часу — разломліваўся на пэўныя перыяды, афарбоўваючыся кліматам кароткіх подбегаў агульначалавечай гісторыі.

Першы перыяд дзейнасці Беларускага літаратурнага аб'яднання — гэта гады 1958-1970. У гэтым часе на нашым літаратурным беларускім фірмаменце паявілася не каля сотні — самых розных па адоранасці, адукацыі, узросце, працавітасці — аўтараў вершаў, лірычнай прозы, апавяданняў, п'ес, нарысаў, фельетонаў, рэпартажаў. Аднак у выніку шмат якіх, як гаворыцца, аб'ектыўных ды суб'ектыўных прычын, з той вялікай колькасці творчых заяваў сваё кнігі тады здолелі напісаць і амаль сілай прабіцца з імі ў друк толькі пяць пісьменнікаў (Алесь Барскі, Яша Бурш, Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Ян Чыквін) — і не выпадкова, бо, як аказалася крыху пазней, менавіта яны былі і засталіся найбольш самастойнымі, найбольш плённымі творцамі і найбольш арыгінальнымі асабовасцямі. Гэты першы этап можна назваць перыядам *вялікай кампрэсіі* і самастанаўлення беларускага літаратурнага жыцця ў Польшчы.

Другі перыяд вызначаюць, несумненна гады 1970-1989. Гэта час вельмі павольнага, насуперак актыўнай асіміляцыйнай палітыкі польскіх тагачасных улад, *разрастання „Белавежы"* ўшыркі і ўглыб. А таксама ў польскасць, у іншамоўнасць. Зборнікі паэзіі і прозы такіх аўтараў, як Уладзімір Гайдук, Юрка Геніюш, Ірына Баравік, Міхась Шаховіч, Надзея Артымовіч, Зося Сачко, Васіль Петручук, Мікалай Гайдук, Георгі Валкавыцкі значна ўзбагацілі беларускую літаратуру нашага абшару новымі тэмамі і праблемамі. Выдатна працавалі і папярэднікі, яны выдалі новыя кнігі аповесцяў, апавяданняў, вершаў, эсэ, перакладаў.

Трэці перыяд пачаўся ў 1990 годзе актам выхаду Літаратурнага аб'яднання са структуры БГКТ. Ужо сёння яго можна назваць перыядам *поўнай дэкампрэсіі* з увагі на знясце цэнзуры ды многіх іншых для пісьменніцкай арганізацыі (дагэтуляшніх) вонкавых перашкод, залежнасцяў і абмежаванняў. Адметнай яго рысай станецца, відаць, бурлівая выдавецкая дзейнасць, на якую складаецца таксама і па-хатняму, прыватна складзеныя ды апублікаваныя кніжкі — без рэцэнзій, без папярэдняга прачытання іх крытыкамі, стылістамі, знаўцамі.

Такая лёгкасць друку вабіць, як заўсёды, царствам чалавечай творчай свабоды, прасторай індывідуальнай самарэалізацыі, глыбока пры тым затойваючы праўду аб цярністай дарозе, што вядзе да той свабоды. Невядома, колькі будзе доўжыцца гэты трэці перыяд. Хочацца, аднак, верыць, што ён будзе асвоены новым пакаленнем беларускіх творцаў, якое і прадоўжыць склаўшуюся ўжо нейкую традыцыю нашага, тутэйшага прыгожага пісьменства і перадасць той каганец духоўнага жыцця — агню сваім наследнікам.

# БЯСПЕЧНА (ЯК ХАЛЕРА)

## НЕДАВУЧАНЫЯ ШАФЁРЫ

Анджэй Б. ездзіў на тэхнічна няспраўнай машыне, але калі сеў у яе ў нецвярозым стане, бяды доўга не трэба было чакаць. Апярэджваючы іншую машыну, грымануў ён у Лешка Б., які ішоў сабе правым бокам дарогі. Гэты апошні, што праўда, у жывых застаўся, але твар яго павярэдзіўся на ўсё жыццё.

Іншы рэйдавік (2,21‰ алкаголю ў крыві) Анджэй М. едучы, здавалася б, простай дарогай, "крануў" Яўгена В. і Марыю Б., якія стаялі сабе збоч дарогі. Мужчына памёр на месцы, жанчына мела болей шчасця, бо толькі паабівала бокі.

## НАЖОМ МОЖНА У ГРУДЗІ АБО Ў СПІНУ

У Бельску Фэлікс Б. ножыкам "патрактаваў" па спіне Ежага Б. Аказаўся ён не абы-якім цвердуном - выжыў, хаця людзей з такімі ранамі, як у яго, звычайна нясуць нагамі дапераду.

У Беластоку ж, 21-гадовы Марыюш Д. дзейнічаў у намеры адабраць жыццё Кацярыне Р. Удар нажом нанёс ёй у грудзі. Сваю мэту дасягнуў - Кацярына Р. памерла.

## ПЛАВАЦЬ НАВУЧЫЦЦА - ЗАЎСЁДЫ ПРЫГАДЗІЦЦА

Пётр С. і Пётр Б., а таксама шэсць іншых асоб, гойсалі па Беластоку ды наведвалі крамы. Аднак у такую пару, калі ўласнікі клаліся ў цёплую пасцель. Акрамя гэтага, абодва Пятры напалі на Анджэя В., пабілі яго, ашаламілі газам, зрабавалі 90 тысяч злотых, а наканец кінулі ў прасмярдзелую беластоцкую Бялку, дзе той і патануў.

## ЮРЛІЎЦЫ З-ПАД САКОЛКІ

Кшыштаф Б. і Тамаш Б. згвалтавалі Анну М. і Бэату Ц.

## РОЗУМУ І АМЕРЫКА НЕ НАВУЧЫЦЬ

Тамаш Я., пастаянны жыхар ЗША, прыехаў у Польшчу і пасяліўся ў Беластоку ў Эвы К. Абакраўшы яе, пабываў у розных мясцінах Польшчы. У Варшаве ж, зайшоў у валютную касу і хацеў абмяняць фальшывыя 100 долараў. Аказалася, што меў у запасе яшчэ такія два банкноты, а дадаткова і дзве фальшывыя аднамільённыя купюры.

* * *

Прыведзены тут пералік злачынстваў - гэта ўсяго некаторыя, так сказаць, цікавейшыя справы, якія ў месяцы сакавіку наплылі ў крымінальныя аддзяленні судоў у нашым рэгіёне. Суды сёння перагружаныя такімі справамі - разгляду яны чакаюць і па два гады. Не сакрэт таксама, што колькасць злачынстваў у апошніх гадах непамерна павялічылася. Прычыны такога становішча складаныя ды не заўсёды можна іх асэнсаваць. Хочацца, аднак, звярнуць увагу, што не без уплыву на ўзрост злачыннасці - узрост беспрацоўя як у рэгіёне, так і ва ўсёй краіне. Беспрацоўе ў краіне перавышае 20 працэнтаў усяго працаздольнага грамадства - у нашым ваяводстве яно крыху меншае. Першае, што кідаецца ў вочы, калі даводзіцца пераглядаць мне ўсялякія судовыя даведкі - гэта малады ўзрост злачынцаў. Найчасцей ім па 20 гадоў або нешта каля гэтага. Брак працы ды жыццёвай перспектывы шмат у якіх выпадках адціскае асабліва моцнае кляймо на маладым пакаленні, якому даводзіцца будаваць сваё жыццё ў гэты цяжкі час.

(ам)

<u>Фестываль царкоўнай музыкі</u>

# З ВІЗАНТЫЙСКАЙ РАДАСЛОЎНАЙ

У гісторыі еўрапейскай культуры царкоўная музыка з'яўляецца своеасаблівым светам нязвыклай прыгажосці і чароўнасці. Здзіўляе яна багатай мелодыяй, вялікапышнасцю гучання. Узрушвае, хвалюе і расчульвае глыбінёй і непасрэднасцю экспрэсіі. Гэтая адасобленасць ды непаўторны клімат бяруцца перш за ўсё з утроенага радаводу... Папершае: з музычнай культуры Візантыі. Па-другое: з наўнай ды палкай і шчырай рэлігійнасці рускага народу. Па-трэцяе: з рускага, беларускага і ўкраінскага фальклору.

Ад нядзелі да нядзелі, у днях **23-30 мая г.г. у гайнаўскім саборы Святой Тройцы** адбудзецца чарговы, **XII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі.** Гэтае музычнае свята вельмі папулярнае, яно цешыцца вялікім зацікаўленнем у нашай краіне і — не перабольшваючы — у свеце. Да гэтай пары ў ім удзельнічала 138 ансамбляў з нашай краіны і з-за мяжы.

Першымі ад самога пачатку на працягу двух дзён будуць выступаць прыхадскія вясковыя і гарадскія хоры. Затым на працягу трох дзён будуць браць у ім удзел аматарскія і прафесійныя свецкія хоры. Усяго — трыццаць. У мінулым годзе ў вышэйзгаданым фестывалі ўдзельнічалі 22 хоры.

Сёлета ўпершыню прыедзе 21 новы хор, між іншым са Стакгольма (Швецыя), Харкава (Украіна), Тарту (Эстонія), Брэста (Беларусь), Смаленска (Расія), Прэшава (Славакія), Аргес (Румынія) ды Ольштына і Гурова-Ілавецкага (Польшча). Можна будзе паслухаць адзінаццаці замежных харавых ансамбляў.

Арганізатары запрашаюць на Фестываль аматараў царкоўнай музыкі. І так, у нядзелю, **23 мая** а гадзіне 18 у Святатроіцкім саборы выступіць мінулагодні лаўрэат — ансамбль царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы пад кіраўніцтвам а. Юрыя Шурбака;

**24 мая** адбудзецца семінар для харавых дырыжораў;

**25 мая** — ёсць магчымасць паслухаць праваслаўныя парафіяльныя хоры з Гарадка, Беластока, Дубічаў-Царкоўных і Заблудава (выступяць яны ўпершыню на такога роду мерапрыемстве) ды з Нараўкі і Орлі;

**26 мая** — хоры з Беластока, Гайнаўкі і Санока;

**27 мая** — хоры са Швецыі, з Беларусі, Украіны, Славакіі і Польшчы;

**28 мая** — хоры з Эстоніі, Беларусі і Польшчы;

**29 мая** — хоры з Румыніі, Расіі, Украіны, Балгарыі, Беларусі і Польшчы.

Варта дадаць, што 25, 27, 28 і 29 мая конкурснае праслухоўванне хораў будзе пачынацца а гадзіне 16 і, толькі ў адным дні — 26 мая — а гадзіне 18.

У нядзелю, **30 мая** а гадзіне 13, журы фестывалю пазнаёміць аматараў харавых спеваў з вынікамі конкурсу, пасля чаго пачнецца канцэрт лаўрэатаў. Другі гала-канцэрт адбудзецца ў беластоцкай філармоніі (пачатак а гадзіне 17).

ЯНКА ЗАРЭЧНЫ

# БЕДНАЯ „БЕЛАВЕЖА"?!

Нядаўна хтосьці на старонках „Нівы" пісаў, што рады Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" не папаўняюцца, што няма маладога пакалення беларусаў, якое было б гатовае прадаўжаць багатую традыцыю беларускага літаратурнага руху ў Польшчы.

Сярод „белавежцаў" ёсць, на маю думку, некалькі таленавітых пісьменнікаў, якіх творы можам прачытаць час ад часу, але вельмі рэдка. З другога боку друкуецца аднак „Белавежай" проза і паэзія, якія або зусім незразумелыя большасці патэнцыяльных чытачоў, або іх змест прадстаўляе нейкі свет абсурду, якога нават падабенства цяжка дашукацца ў рэчаіснасці, напрыклад, прыдуркаватым, прымітыўным сялянам і высокародным, добрасумленным партыйным дзеячам („Пожня" В. Петручука).

Тое, што чуецца ў прыватных размовах з літаратарамі „Белавежы" пераконвае мяне, што не чытач з'яўляецца галоўным суб'ектам выдавецкай дзейнасці. На маю думку літаратурная творчасць толькі тады мае нейкі сэнс, калі знаходзіць яна чытачоў. А чытача маем такога, якога маем. Нават трошку адукаваны беларус не будзе рвацца да кніжак, пісаных у стылі Кафкі, Іанескі, Маякоўскага, Тэтмаера, Энгельса ці Казанэцкага, так як не зашмат ёсць ахвотных слухаць д'ябальскі рок ці іншы гатунак музыкі — бомканне на фартэпіяна.

Сітуацыя „Белавежы" ёсць, як мне здаецца, даволі складанай. Кіраўнікі спрачаюцца паміж сабою, якія творы маюць вартасць, а якія не, але гэтае зусім не цікавіць чытача, які сам хацеў бы іх ацаняць, без ніякіх аўтарытэтаў. Як могуць у літаратурны рух прыйсці маладыя, хто ім дасць магчымасць публікаваць тое, што яны напішуць, каб дабіцца ацэнкі на чытацкім рынку? З боку г. зв. аўтарытэтаў патрэбная большая адкрытасць, талерантнасць і прыхільнасць да маладых, пачынаючых нешта рабіць на літаратурнай ніве. А ці было б ганьбай для „Белавежы", каб, напрыклад, надрукаваць вершы Дзядзькі Кваса? Думаю, што чытач ацаніў бы такі жэст у яго бок.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

# ПАГУЛЯЛІ ПА-ПРАВАСЛАЎНАМУ...

Працяг са стар. 1

x x x

Мо каб ведала дзяўчына, як усё гэта скончыцца, дык з гэтым святам і не пачынала б. Але хацела па-праваслаўнаму, па традыцыі бацькоў. На хутары Тапілец, што ў канцы Бацютаў, недалёка ад Беластока, яны заўсёды так святкавалі. Зрэшты, на малаадважную дзяўчына не выглядае. Так, як і яе сяброўкі. Вядома, пані суддзя пра гэта не пытае. Яе цікавяць канкрэтныя сухія факты. А ці ж Галіне Слыж гэта свята зусім чужое, калі ў іхніх Кавалях, што каля Кузніцы-Беластоцкай, людзі гавораць па-свойму, гэта значыць, на чысценькай беларускай мове, а суседнія вёскі — праваслаўныя?! А мо ў вёсцы Галіны Гадлеўскай, у Гарасімовічах, што каля Дубровы-Беластоцкай, інакш? А нават Ёля Панятоўская, якая паходзіць са знатнага колішняга роду Панятоўскіх з-пад Лунінца, што на Беларусі, ці можа адцурацца ад гэтага свята?..

Ї так сяброўкі Ірэны Вязоўскай вырашылі сёлета сустрэць разам з ёю Новы год па-праваслаўнаму.

Ї хаця сустрэць яго па-людску ім так і не давялося, але штрафу на 200.000 злотых, на які завочна прысудзіла кожную з іх (і нават Галіну Слыж, якая а дзесятай пайшла спаць) Калегія па справах парушэння правапарадку пры Раённым судзе ў Беластоку, не заплацілі. Чаму не, калі б правініліся, дык маглі б і заплаціць. Аднак жа да ніякай віны не пачуваліся. Не хуліганкі мы, а хрысціянкі, казалі яны.

Ї вось цяпер у судзе ўпартыя дзяўчаты выступаюць у ролі абвінавачваемых.

x x x

Суддзя да Ірэны Вязоўскай:
— Ці прызнаецеся вы да віны?
Ірэна Вязоўская:
— Не!
— Ці будзеце падаваць нейкія высвятленні?
— 13 студзеня я запрасіла сяброўак, якія жывуць разам са мною. А гадзіне 22-ой адна з сяброўак выйшла. Утраіх мы сядзелі, голасна размаўлялі, слухалі музыку. Грамадзянка Новік увайшла ў мой пакой, калі было пару мінут па адзінаццатай, і сказала, што гэта свята разгоніць. Што выкліча паліцыю. Прыехала паліцыя, пагаварыла з намі. Тры гады мы жывем разам, а да гэтага яшчэ два гады жылі ў адным рабочым гатэлі — у суме мы знаёмы з гр. Новік пяць гадоў, і яна добра ведала, што я ў гэты дзень сустракаю Новы год. Цяпер жывем у трохпакаёвай кватэры. Пані Тэрэса Новік жыве ў адным пакоі з Галінай Гадлеўскай. А гадзіне першай п. Новік ужо спала. Навошта яна выклікала паліцыю? Што гэта — злаславасць, дыскрымінацыя? Бадай у Польшчы можна яшчэ вітаць Новы год? Зрэшты, калі былі імяніны, не было ніякай інтэрвенцыі.

Высняе Яланта Ядвіга Панятоўская:
— Сяброўка запрасіла мяне на Сільвестра (праваслаўнага). Мы сустрэліся а гадзіне 20-ай. Сядзелі. Пакойчык вельмі малы. Не было там нават дзе танцаваць. Калі мы святкавалі свайго Сільвестра, нават да гадзіны трэцяй, гучней і даўжэй, дык нікому гэта не перашкаджала.

Галіна Гадлеўская:
— Пасля гадзіны дзесятай іграла музыка, не надта гучна, каб не перашкаджала іншым. Танцаваць? Дзе? Па лаве, па тапчане?! Увайшла Тэрэса Новік:„ Я спыню вам гэтага Сільвестра!" А ніводная з нас жа не паводзіла сябе занадта гучна. А дванаццатай мы выпілі шампанскае, а пасля пачалі прыбіраць і пайшлі спаць.

Пані суддзя да Галіны Слыж:
— Ці прызнаецеся вы да віны?
— Не!
— Ці музыка была надта гучная?
— Я легла спаць па дзесятай. Мне музыка не перашкаджала. Усё гэта няслушнае. 1 студзеня на Суражскай дзеяліся розныя рэчы. Была бойка, было гучна, кагосьці набілі, выклікалі „хуткую дапамогу".

У судовай зале паяўляецца двое сведкаў: Тэрэса Новік, 29 гадоў, агароднік, і Міраслаў Самуль, 29 гадоў, паліцыянт.

Тэрэса Новік:
— Я чакала да гадзіны дзесятай вечара. Было гучна. Спеў, іграла радыё, танцы, апладысменты. А гадзіне 23-яй я ўвайшла ў пакой, дзе было п'янства. Іграла музыка і на стале стаяла бутэлька шампанскага. Я сказала, што гэта перашкаджае майму дзіцяці. Папрасіла, каб яны супакоіліся. А яны сказалі, што магу званіць у паліцыю, а яны абвесцяць галодны страйк. Я выклікала паліцыю. Не магла спаць ані я, ані дзіця. Бадай, гэта працягвалася даволі доўга. Можа да першай, а можа і даўжэй.

Суддзя:
— Вы ведалі, што будзе імпрэза?
— Не!
— Як доўга вы жывеце разам?
— Тры гады.
— І вы не ведалі, што сяброўка святкуе Новы год па-праваслаўнаму?
— Не памятаю.
— А іншым суседзям не перашкаджала гэта імпрэза?
— Але яны баяцца дырэктара.(?!)

Пытанне Ірэны Вязоўскай:
— З якога часу гэта бутэлька шампанскага, выпітага на Сільвестра, называецца п'янствам?

Маўчанне.

Паліцыянт Міраслаў Самуль:
— Калі мы ўвайшлі, то чулі музыку, але не была яна занадта гучная.

Суддзя:
— Ці ў калідоры гэту музыку было чуваць?
— Не. Бадай не. Але пані Тэрэса Новік гаварыла, што дзіця не можа спаць. У пакоі, дзе адбывалася імпрэза, былі тры пані. Сказалі, што святкуюць сёння Сільвестра. Сцішылі музыку. У асобным пакоі была яшчэ адна пані, у піжаме.

Дзяўчаты не лыкам шытыя. Пытанне да сведка М. Самуля (амаль аднačасова ад Ірэны Вязоўскай і Галіны Слыж):
— Ці ў вашай службовай працы здарылася да гэтага часу хоць раз, каб выклікалі вас інтэрвеніяваць на Сільвестра?
— Не.

x x x

Прысуд: у імя Польскай Рэчыпаспалітай усе чатыры абвінавачваемыя — апраўданы. Праўда, што тры сяброўкі прыйшлі да сваёй суседкі, каб разам з ёю сустрэць Новы год паводле юліянскага календара. Ёсць, аднак, звычаёвыя нормы сужыцця. Нельга дзяўчат абвінавачваць за гэта, як нельга мець прэтэнзію за тое, што ў царкве голасна б'юць званы перад Раждаством Хрыстовым, або нехта спявае свой нацыянальны гімн стоячы і засланяе іншаму бачанне, — вынікала з заключнага слова пані суддзі.

x x x

Частавата чую, але нават не ведаю, у каго з суседзяў наверсе да першай уначы працуюць нейкія станкі, вяртаркі; а любімым заняткам адной гаспадыні з'яўляецца адбіванне катлетаў на заўтрашні абед — апоўначы.

Ніхто не прабуе нават выклікаць паліцыю.

**АДА ЧАЧУГА**

## MAJOWE SPOTKANIE MŁODZIEŻY NA GRABARCE

*Niniejszym zwracam się do Was w imieniu Bractwa Młodzieży Prawosławnej w Polsce z serdeczną prośbą o zamieszczenie na łamach Waszej gazety załączonej informacji dotyczącej organizowanej XVI Ogólnopolskiej Pielgrzymki Młodzieży Prawosławnej na Św. Górę Grabarkę (14 - 16.05.1993).*

**PRZEWODNICZĄCY BRACTWA MŁODZIEŻY PRAWOSŁAWNEJ**
**mgr Jarosław Charkiewicz**

* * *

W dniach 14 - 16 maja b.r. Bractwo Młodzieży Prawosławnej organizuje już XVI Ogólnopolską Pielgrzymkę na Świętą Górę Grabarkę. Rokrocznie Młodzież zbiera się tam, aby wykorzystać modlitewną atmosferę tego świętego miejsca i klasztoru na pełniejszy kontakt z Bogiem. W tym roku młodzież będzie mogła modlić się również w odbudowanej po pożarze cerkwi.

Spotkanie modlitewne rozpocznie się w piątek o godzinie 18-tej poświęceniem wody i wsienocznym bdienijem (całonocnym czuwaniem). Po wieczorze zapoznawczym i śpiewaniu pieśni religijnych w grupach namiotowych będzie miało miejsce przeniesienie, ustawienie i poświęcenie krzyża pielgrzymki. W nocy odsłużona zostanie panichida na grobach ś.p.ś.p. arcybiskupa Aleksego i ihumenii Barbary oraz akafist.

W sobotę po Świętej Liturgii nastąpi uroczyste rozpoczęcie pielgrzymki. Przewidziano wystąpienia zaproszonych biskupów, przełożonej klasztoru św.św. Marty i Marii oraz gości z zagranicy. Wygłoszony zostanie referat na temat motta pielgrzymki zaczerpniętego z Listu apostoła Pawła do Hebrajczyków (1,1): "Bóg wielokrotnie i w różny sposób z dawnych czasów przemawiał do ojców poprzez proroków". Młodzież będzie miała okazję dyskutować w grupach na temat m.in. ekumenizmu wewnątrz-prawosławnego, sakramentu Eucharystii i spowiedzi, spraw narodowościowych w kontekście życia cerkiewnego, języka liturgicznego, roli kobiety w życiu Cerkwi, życia monastycznego, chrześcijańskiego sensu życia itp. Zaplanowano również spotkanie z biskupem Jeremiaszem, ordynariuszem diecezji wrocławsko-szczecińskiej i innymi przedstawicielami duchowieństwa, w czasie którego młodzież będzie mogła otrzymać odpowiedzi na nurtujące ją pytania dotyczące życia duchowego. Wystąpią również chóry młodzieżowe. Tego dnia zostanie także zaprezentowany przy ognisku program religijno-artystyczny.

Zakończenie i podsumowanie pielgrzymki odbędzie się w niedzielę po Liturgii Świętej.




**ЧАСТКА XLI**

Апошнім маім суразмоўцам на тэму цяперашніх перамен быў трыццацігадовы настаўнік з Менска. Сказаў ён, што ніколі не быў у партыі, бо заўсёды ставіўся да яе крытычна з прычыны яе нацыянальнага нігілізму. Паводле майго суразмоўцы, Камуністычная партыя Беларусі свядома імкнулася да ліквідацыі беларусаў як нацыі шляхам, як ён сказаў, „забойства беларускай мовы і беларускай нацыянальнай свядомасці".

„Пра беларускую камуністычную партыю гаварыць не хачу. Была яна свядомай варожай сілай усяго, што называлася беларускім. Яна пільна сачыла за тым, каб удзел у жыцці нашага грамадства беларускіх элементаў быў мінімальны і каб такім чынам нішто і ніхто не пагражаў расейшчыне і рускім у нашай краіне. Не буду гаварыць пра злачынствы Сталіна, бо яны шырока вядомы ўсяму свету, прагну сказаць, што сорак гадоў пасля смерці „Бацькі народаў" камуністычная партыя Беларусі бязлітасна нішчыла ўсё беларускае, даводзячы да нулявога ўзроўню ранг беларускай мовы, ранг беларускай нацыянальнай свядомасці. Не ведаю ці чыталі вы часопіс „Политический собеседник", які кпіў, іранізаваў, прыніжаў, высмейваў беларускую мову. Ён ставіў за мэту адбіраць у беларусаў веру ў сваю нацыянальную існасць.

І таму я з энтузіязмам прыняў ухвалу Вярхоўнага Савета аб беларускай мове як мове дзяржаўнай і абвяшчэнне Беларусі суверэннай дзяржавай. Нацыянальная годнасць і гордасць надалі імпульс новай вялікай надзеі.

Аднак мушу сказаць, што вялікае мае засмучэнне выклікае тое, што ў нас няма сапраўды нацыянальных палітыкаў. Многія з тых, хто займаюць месцы ў Вярхоўным Савеце, гэта артадаксальныя камуністы, а не нацыянальныя палітыкі. Я, калі б мог, адабраў бы ў іх мандаты. Толькі падумайце! Гэтыя „прадстаўнікі" народу думаюць перад усім аб тым, як найвышэй падняць сабе зарплаты, нягледзячы на тое, што амаль кожны з іх працуе, і з прычыны свайго дэпутацтва грабе такія грошы, пра якія мы нават не снім. Тады, калі я зарабляў адну тысячу рублёў, яны мелі па дзесяць тысяч. Сёння гэтыя прапорцы, а ўласціва дыспрапорцыі, павялічыліся. Як вядома, нашы дэпутаты безупынна грызуцца. Калі, аднак, толькі дойдзе да галасавання ў справе павышэння для іх зарплат, сярод іх пануе ідэальная згода. Тады згодна і гарманічна галасуюць і Дземенцей, і Пазьняк. Вось які маем парламент!

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

У нас, як вядома, многа шуму выклікала пастанова Вярхоўнага Савета ў справе легалізацыі камуністычнай партыі. Калі шчыра, дык я гэтага шуму не разумею. Вядома, што ва ўсіх дэмакратычных краінах камуністычныя партыі дзейнічаюць легальна. Дык чаму ж гэта Рэспубліка Беларусь, якая хоча быць дэмакратычнай краінай, мае забараняць існаванне якой-небудзь партыі? Гэта ж нелагічна. Іншая справа — практычная дзейнасць камуністычнай партыі. Калі высвятліцца, што яна і ў далейшым будзе займаць варожую пазіцыю ў дачыненні да беларускіх нацыянальных інтарэсаў, дык тады ўсе свядомыя беларускія сілы павінны ўсімі даступнымі сродкамі разаблачаць яе дзейнасць і яе характар.

Камунізм на нашай зямлі фактычна памёр і ніякія Чыкіны ( былы сакратар Менскага гарадскога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, а цяпер важак адной з некалькіх беларускіх камуністычных груповак — А. Б.) яго ўжо не адродзяць. Аднак бальшавізм жыве яшчэ ў сэрцах многіх людзей. Хто ж асудзіць бясплатнае школьніцтва, бясплатнае лячэнне, танныя кватэры, працу для ўсіх, адпачынак для ўсіх? Хто асудзіць гэтыя камуністычныя аспекты рэчаіснасці? Мабыць, ніхто. На жаль, наша апазіцыя не разумее, што камунізму нельга забіць дэмагагічнымі фразамі. Калі толькі ў нашай краіне будзе створана жыццё лепшае за тое, якое было пры камунізме, тады народ масава прыхіліцца да ідэі незалежнай Беларусі. Я, аднак, спадзяюся на лепшае. Думаю, што час пачынае працаваць на нашу карысць. Нягледзячы на цяжкасці і перашкоды, Беларусь будзе існаваць шляхам незалежнасці. Ну, а што тычыцца мяне, дык я не буду ўступаць ані ў якую партыю, бо пастанавіў змагацца за Беларусь у адзіночку".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## БАТАНІЧНЫ САД

Жамчужынай у зялёным убранні горада Менска па праву лічыцца Цэнтральны батанічны сад Акадэміі навук Беларусі. Заснаваны ў 1932 годзе як спецыялізаваная навукова-даследчая ўстанова, сад раскінуўся на стогектарнай тэрыторыі ў паўночна-ўсходняй частцы горада.

Своеасаблівая планіроўка батанічнага саду. У цэнтры — партэр, аформлены ў строгім стылі. Ад яго промнямі разыходзяцца адзінаццаць алей з розных драўнінных парод: арэха маньчжурскага і клёна серабрыстага, ясеня пенсільванскага і чаромхі Маака, яблыні кітайскай і дуба чарэшчатага, бярозы павіслай і ліпы дробналістай, елкі звычайнай і туі заходняй... У сектарах паміж алеямі — участкі вырошчвання і паказу арнаментальных раслін, ландшафтнага парку, дэндрарыя, пладова-ягадных і карысных травяністых раслін, гадавальнікі і г.д. Па плошчы, саставу калекцый, колькасці навуковых даследаванняў і добраўпарадкаванню Цэнтральны батанічны сад АН Беларусі — адзін з буйнейшых у Еўропе.

## "ВЫРУЧЫМ ПЭПІ"

13-гадовая дзяўчынка Інгер Нільсан стала любіміцай шведскіх кінагледачоў пасля таго, як сыграла галоўную ролю ў фільме "Пэпі - Доўгая панчоха". Мінула з таго часу васемнаццаць гадоў. Інгер не стала актрысай - яна працуе сакратаркай. Пра свой дэбют у кіно даўно забылася, але не забыліся пра яго падатковыя інспектары. Яны раптам выявілі, што Інгер вінавата казне 6.000 долараў. Былая "зорка" звярнулася да ўрада з просьбай пагасіць яе запазычанасць, бо са свайго цяперашняга заробку яна не можа заплаціць падатак. У просьбе ёй адмовілі. І тады шведскія школьнікі аб'явілі збор грошай.



*Вясновыя парадкі ў Нараўцы.* **Фота М. Лукшы**

### УНЯСІЦЕ ПАПРАЎКУ

Астраномы завяршылі чарговы цыкл наземных назіранняў Нептуна — цяпер самай далёкай ад нас планеты (у 2009 годзе самай далёкай зноў стане Плутон). Упершыню ўдалося непасрэдна змераць перыяд вярчэння планеты вакол сваёй восі. Высветлілася, што „суткі" на Нептуне, які аддалены ад нас на чатыры з лішнім мільярды кіламетраў і перавышае ў папярочніку Зямлю амаль у чатыры разы, складаюць 17,8 гадзіны, а ва ўсіх падручніках і даведніках па астраноміі стаіць лічба 15,8.

Таксама ўпершыню ўдалося назіраць кальцо вакол Нептуна.

### У ЦЭНТРЫ ВЕНЫ

Ваўку ўдалося пагуляць па вуліцах Вены без авечай скуры. Шматлікія прахожыя, відаць, прымалі звера за аўчарку. І толькі калі драпежнік, які ўцёк з заапарка, трапіў у вентыляцыйны ствол жылога дома і гучным сумным выццём перапалохаў жыхароў, раскрылася яго інкогніта. Выкліканы тэрмінова з заапарка ветэрынар наркознай усыпляльнай стралой спыніў гарадскі шпацыр шэрага.

### ШКОЛА ДЛЯ СЛАНЯНЯТ

У апошні час сланы, якія жывуць на астравах Інданезіі, прычыняюць нямала клопату сялянам. Гіганты робяць спусташальныя набегі на палі, бо чалавек выцісную жывёлін з месцаў пастаяннага жыхарства. Арыгінальнае вырашэнне праблемы знайшлі ўлады вострава Суматра. Тут сланоў „прызначаюць на службу". Маладых жывёлін адлоўліваюць і адпраўляюць у... школы, дзе іх навучаюць розным „прафесіям". Курс навучання сланяняты праходзяць пад кіраўніцтвам вопытных дрэсіроўшчыкаў: два дзесяткі „настаўнікаў" запрошаны з Бірмы і Тайланда. Сланы атрымліваюць адукацыю згодна са схільнасцямі.

## *Вершы Віктара Шведа*

### ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

Татульку добрага пытае
Дапытлівы Ваня:
— Скажы, што мы называем
„Ганаровым званнем?"

— Звання будзе сэнс той самы,
Чуў не раз, вядома:
Называе мяне мама
„Галавою дому".

### У ГАРАДСКІМ БАСЕЙНЕ

У гарадскім басейне,
Цікаўны заўжды Жэня
Пытаецца Андрэя:
— Плаваць ты ўжо ўмееш?

— Ты сумняваўся хіба?
Я плаваю, як рыба!
— А навучыўся дзе?
— У вадзе.

### РАЗУМНЫ І ДУРНЫ

На вуліцы вясковай дзеці
Доўга спрачаюцца аб тым:
Якая розніца на свеце
Паміж разумным і дурным?

У першага так думак многа,
Што паглынаюць мовы час.
Гаворкі безліч у дурнога,
А думак скромненькі запас.

### НЕ МАЮЦЬ РЫБЫ РУК І НОГ

— Ты, мой татулька, хіба
Мне адказаць бы змог,
Чаму ніколі рыбы
Не маюць рук і ног?

— Калі б ім лёс капрызны
Не паскупіў ног, рук,
Хварэлі б рэўматызмам,
І мелі б мноства мук.

### УНУКУ НАВУКА

Дзядуля даверае ўнуку
Жыццёвай мудрасці навуку:
— Захочаш поспехаў мець поўна —
Будзь асцярожны, паслядоўны...

— А паслядоўнасці умовы?
— Стрымаць заўсёды свае слова.
— А быць, дзядуля, асцярожным?
— Нічога абяцаць не можна.

*ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ*

## СКОРАГАВОРКІ

### ШТО БРАТУ БРАНІСЛАЎ ПРЫСЛАЎ

У Браслаў
брату
Браніслаў
прыгожы бранзалет
прыслаў.

### ЛІЛЕЧКА І ЛЯЛЕЧКА

Лілечка
лялечку Алачку
любіць, яе забаўляе,
Лілечка
лялечку Алачку
ў люльцы люляе.

### ГРАЛА КЛАРА

На домры Клара
добра грала.

### ЯЎСЕЕВЫ КАСЕТЫ

Яўсей нясе
касеты ўсе,
усе яны
Яўсеевы.

### У ДОМНЫ

Дома Домна.
А ў доме цёмна.

### ЯГОР І ЯГОРАЧКА

— Дзе Ягор?
— Ідзе з гор.
— Дзе Ягорачка?
— Ідзе з горачкі.
У Ягора
за спіной горы.
У Ягорачкі —
горачка.

## ПАЭТ І ПТУШКА

У адзін марозны лютаўскі дзень зайшоў да мяне на працу ў белавежскі прыродазнаўчы музей паэт Барыс Руско. Ён выязджаў дамоў, у Варшаву, а перад гэтым пажадаў развітацца са мною. Прыселі мы на дубовай лаўцы, што стаіць ля ўвахода. Пачалі гаварыць.

У нейкі момант я пачуў, што нешта лёгка ўдарыла ў зашклёныя сцены музея. Азірнуўся. Ля ўваходных дзвярэй убачыў маленькую сініцу, якая, відаць, не прыкмеціла сцяны, адбілася ад яе і цяпер ляжала, быццам мёртвая.

— Ну, яшчэ адна небарака папала ў гэту „лавушку", — кажу майму прыяцелю. Спадар Барыс сарваўся, падбег да птушкі, узяў яе далікатна на далонь і ўнёс у музей.

Гэта была блакітніца блакітная з сям'і сініцавых.

— Ах, ты, мадрашка, якое цябе спаткала няшчасце, — пачаў літавацца над птушкай паэт.

Птушка ляжала на далоні, не рухаючыся, з крыху падкурчанымі ножкамі.

— Пятрусь, яна хіба нежывая?.. — з сумам азваўся спадар Барыс.

— Не, яна не забілася, толькі знаходзіцца ў моцным шоку, — сказаў я.

— Тады — як ёй памагчы? Мо маеш хлеб? Накормім яе!

— Хлеб маю, але есці яна цяпер не будзе. А калі выйдзе з шоку, злякаецца нас і ўцячэ...

Паэт пачаў хукаць на мадрашку. Яна неўзабаве выпраставала ножкі, пачала крыху варушыцца.

— Яна жыве! — узрадаваўся спадар Барыс. — Ты, аднак, дай ёй пару крышынак, мо іх з'есць, узмоцніцца, а тады паляціць?..

Я ўзяў сваё другое снеданне. Трохі накрышыў хлеба і высыпаў на далонь паэта. Але ашаломленая яшчэ птушка не заўважала корму.

У той час з музея выходзіла група вучняў з праваднічай. Дзеці абступілі нас, пачалі разглядаць птушку, дапытвацца, што з ёй здарылася. Шкадавалі небараку. Убачыла птушку і праваднічая:

— О, добра, яе будзе можна прэпараваць, зрабіць чучала!

— Што вы гаворыце! — усхваляваўся паэт. — Як вам не сорамна перад дзецьмі! Гэтай птушцы трэба памагчы выжыць, а не забіваць яе! Якая вам будзе карысць з мёртвай птушкі?

Праваднічая засаромелася. Звярнулася да мяне з тлумачэннямі. Я ж, праўду кажучы, і не слухаў. Адпіхнула яна мяне ад сябе сваімі непрадуманымі выказваннямі, сваёй крывадушнасцю, што асабліва не прыстоіць жанчыне, якая дае выхаванне.

Праз нейкі час мы засталіся зноў удваіх з птушкай. Паэт пачаў хукаць на малечу, і яна кожны раз варухалася.

— Ну, цяпер можна ёй даць вады, — кажу я.

Набраўшы з крану пару кропель на далонь, я прыпаднёс іх пад дзюбку блакітніцы. Мой прыяцель нахіліў птушку так, што дзюбка дакранулася вады. Птушка раптоўна ачуняла, хацела ўзляцець.

Барыс хутка выбег за дзверы. Узнёс далонь угару і птушка паляцела. Да яе вокамгненна далучылася іншая сініца, быццам яе чакала. Абедзве паляцелі, вясёла цвыркаючы.

— Відаць, гэта — пара, — узрадавана сказаў паэт. — Пабач, Пятрусь, тая другая птушка цэлы час чакала свайго мужа ці жонку, перажывала, думала...

Барыс Руско стаяў і глядзеў. На яго твары квітнела шчасце.

**ПЁТР БАЙКО**

# ВЫ, БАБУЛІ, ДЗЯДУЛІ І ЎНУКІ

*Неператварай старасці сваіх дзядулі і бабулі, бацькі і маці ў бяду. Помні, што і ты будзеш старым... Дзядулю і бабулі — пачэснае месца ў доме...*

*Калі дзядуля і бабуля жывуць не ў тваёй сям'і — пішы ім. У старасці для чалавека асабліва дорага тое, што аб ім не забываюць.*

**У. А. Сухамлінскі**

Нямала канфліктаў у сем'ях узнікае з-за таго, што маладыя не задумваюцца над тым, з якімі праблемамі сутыкаюцца іх бацькі, калі становяцца пажылымі людзьмі, а выстаўляюць на першы план свае клопаты і інтарэсы.

Сённяшнія бацькі не хочуць абмяжоўваць сябе толькі колам сямейнага жыцця, а імкнуцца жыць больш насычана, быць карыснымі грамадству, цікавымі для сябе і сваіх сяброў. Яны ў многім вырашылі свае бытавыя праблемы, вырасцілі дзяцей і цяпер хочуць рабіць тое, на што ў мінулым ім, можа быць, не хапала часу. І гэтага нельга не ўлічваць у сямейным жыцці.

У маладых склаўся пэўны памылковы стэрэатып успрымання людзей старэйшага ўзросту, уяўленне аб іх як аб людзях, якія ўжо пажылі, „атрымалі сваё", а цяпер павінны клапаціцца аб малодшым пакаленні і толькі. Але не трэба забываць, што чалавек здольны развівацца ўсё жыццё, а сярэдні ўзрост — найбольш спрыяльны перыяд прыкладання сваіх сіл.

Па даных статыстыкі, 8% маладых сем'яў распадаюцца з-за канфліктаў з бацькамі. У многіх сем'яў па гэтай жа прычыне складваецца вельмі неспрыяльны мікраклімат, ад якога пакутуюць усе — і маладыя, і іх бацькі, а больш за ўсіх — дзеці. Такім чынам, кожны з членаў сям'і павінен быць зацікаўлены ў добрых, разумных і чулых узаемаадносінах. І калі вы будзеце правільна ўлічваць псіхалагічныя асаблівасці, звязаныя з узростам вашых бацькоў, глыбей унікаць у іх праблемы, лічыцца з іх жаданнямі і інтарэсамі, гэта дазволіць вам больш гібка падыходзіць і да вырашэння ўласных праблем, звязаных з бацькамі. Менавіта сям'я з'яўляецца важнейшай сістэмай сацыяльнай і псіхалагічнай падтрымкі пажылых людзей, менавіта ад блізкіх — ад тых, каго яны любяць, з кім пастаянна і цесна звязаны, залежыць іх душэўны спакой, а значыць, і ваш таксама. Нездарма выдатны ўрач XVIII стагоддзя Іаган Фішэр пісаў, што адсутнасць душэўнага спакою значна больш садзейнічае скарачэнню жыцця, чым наяўнасць усіх спрыяльных фактараў яго падаўжэння.

Узаемаадносіны ў жыцці заўсёды адыгрываюць асобую ролю, чалавеку ж так неабходна суперажыванне, спачуванне. Ці задумваліся вы над тым, як важна вашым бацькам быць у курсе вашых спраў, абмяркоўваць з вамі розныя праблемы: толькі тады яны могуць адчуць сваю карыснасць, цесную сувязь з вашым жыццём — усё гэта спрыяльна ўплывае на іх самаацэнку, настрой, на агульнае становішча. І толькі тады добрыя ўзаемаадносіны паміж вамі стануць вытокам глыбокага эмацыянальнага задавальнення.

Жанчынам і мужчынам пажылога ўзросту хочацца жыць у поўную сілу, а не проста цягнуць лямку. І з гэтым нельга не лічыцца. Можа адбыцца так: калі бацькі адчуюць, што маладая сям'я ўсе свае клопаты звальвае на іх, то яны ўсімі сіламі будуць адхрышчвацца ад гэтых клопатаў.

Хто ж будзе спраўляцца: так, даглядаць дзіця, весці гаспадарку цяжка. Але нярэдка маладая сям'я лічыць само сабой зразумелым перакласці ўсе свае хатнія клопаты на бацькоў. Часам, вярнуўшыся з працы, дазваляюць сабе выказаць незадаволенасць чым-небудзь. Нічога, акрамя горкай крыўды, такія адносіны ў бацькоў выклікаць не могуць.

Маладым нядрэнна б зыходзіць з простага правіла: кожны абавязаны ў першую чаргу несці сваю ношу сам, а не перакладваць яе на плечы іншых. Вядома, ад нечага прыйдзецца адмовіцца, але ж без пераадольвання цяжкасцей нельга чаму-небудзь навучыцца, інакш вы рызыкуеце стаць толькі спажыўцамі, эгаістамі.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В. БАЛЦЭВІЧ, Л. ГАРБАЦЕНКАВА**

# БАГІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

Да прыняцця хрысціянства, якое афіцыйна адбылося больш як тысячу гадоў таму, а фактычна расцягнулася на некалькі стагоддзяў, нашы продкі былі язычнікамі. Паслядоўнікі язычніцтва, ці паганскіх вераванняў, пакланяліся мноству багоў, ушаноўвалі свяшчэнныя дрэвы, камяні, узгоркі, крыніцы, вытокі рэк, прыродныя стыхіі, нябесныя свяцілы.

Адным з вярхоўных багоў быў Вялес, апякун жывёлагадоўлі, гандлю, багацця, вытокаў рэк, замагільнага свету, абрадавай паэзіі і песень. З культам Вялеса было звязана сузор'е Валасажары (Плеяды), ён мог увасабляцца ў такіх істотах, як бык, змяя, мядзведзь, воўк. З культам Вялеса было звязана ўшанаванне свяшчэннай ракі Віліі (Вяллі), ад імя гэтага бога паходзіла назва паганскіх святароў — вешчуны (волхвы). Мяркуючы па рэштках міфалагічных сказанняў, Вялес хутчэй за ўсё быў галоўным богам у насельніцтва Полацкай зямлі. Атрыбутам Вялеса лічыўся рог як сімвал багацця (магчыма, адсюль і імя першага вядомага полацкага князя Рагвалода — „уладар рога").

Другім з вярхоўных багоў, галоўным, напэўна, на цяперашніх украінскіх землях, быў Пярун, бог грому і маланкі, вайсковай справы, апякун княжацкай дружыны. Дагэтуль у беларускай мове захавалася слова „пярун" як абазначэнне ўдару маланкі. Лічылася, што Пярун на калясніцы раз'язджае па небе і кідае маланкі. Адной з іпастасей, ці сынам Перуна, з'яўляўся Ярыла, бог урадлівасці і вайны, свята ў гонар якога адзначаецца 27 красавіка.

Богам сонца, пасылаючым розныя даброты, лічыўся Дажбог. Зрэшты, згодна некаторым звесткам, богам сонца і апекуном жывёлы з'яўляўся Сотвар. Як мяркуюць некаторыя даследчыкі фальклору, богам агню быў Жыжаль, холаду — Зюзя. Багіняй урадлівасці і дабрабыту, апякункай сямейнага жыцця лічылі Ладу (яшчэ яе маглі называць Цёцяй), а яе дачку Лёлю (Лялю) — багіняй кахання і вясны. Свята ў яе гонар адзначалі 22 красавіка. Адзін з персанажаў міфалогіі Аўсень звязаны з пачаткам вясновага сонечнага цыкла і ўрадлівасцю, атрыбутам яго былі коні. Вядомы яшчэ быў вобраз Дзянніцы, ранішняй заранкі, каханкі Месяца, да якога яе раўнуе Сонца, і яе сястры Вечарніцы (Вячоркі), вячаровай заранкі. Даравальнікам багацця і долі лічыўся Бялун.

**ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ**

## АДГАДАНКА

*Прыглядзіся да фігураў намаляваных у левым верхнім квадраце і скажы, якіх фігур не хапае ў апошніх.*









## ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, 210015, г. Віцебск, Маскоўскі праспект, д. 7, кв. 108, **ДЗІМА АЛЯКСАНДРАЎ** (12 гадоў).

Чакаюць лістоў таксама яго аднакласнікі.



# ХТО СПІЦЬ ДЗЕ ПАПАЛА ?

*Казка*

Бабуля сварылася на ката кожны дзень. То зломіць вазон на акне, дурэючы. То абарве фіранку, гойдаючыся на ёй, як на гушкалцы. То разаб'е сподак ці міску. То ўзбярэцца на падушку, спіць, мышэй не ловіць. Аніякай ад ката карысці, лічыла бабуля, адна шкода.

Сеў неяк раніцай кот на акне, пачаў мыцца. Доўга мыўся, прыхарошваўся. І раптам падумаў: "А ці не памыць мне за адным разам і бабуліна акно?"

Каб акно стала белае-белае, памыў яго... смятанай.

Зноў крык і гвалт. Сварыцца бабуля, гультаём ката называе.

"Ну ніяк ёй не патрапіш, - разважаў збянтэжаны кот, сеўшы каля кошыка, дзе ляжала бабуліна вязанне. - Што б яшчэ зрабіць добрае? А звяжу я сам сабе шкарпэткі".

І раскаціў клубкі па падлозе. Клубкі былі шэрыя, чорныя, белыя. "У самы раз! - радаваўся кот. - Я ж таксама паласаты". Вярцеўся, як матавіла, скакаў верацяном, шоргату нарабіў, натрос смецця. Усё прадзіва пераматаў, а пяткі ўсё роўна голыя.

Зноў крык і гвалт. Сварыцца бабуля, як не плача. Такі благі кот у хаце!

"Зраблю нарэшце добрую справу, - вырашыў кот, - злаўлю мыш".

Доўга стаяў у куце за печчу. Потым сеў. Потым задрамаў. А калі прачнуўся, ніяк не мог зразумець: хто гэта шапаціць у кошыку - бабуля ці мышка? Бабуля таксама любіць пакорпацца ў мяшэчках з сушанымі ягадамі, грыбамі, пашамацець паперкамі. То рукавом, то падолам махне, зачэпіць, як мышка хвастом, што-небудзь, скіне з лаўкі... Але хто ж гэта там, нарэшце? Можа, высунуцца паглядзець? Не, так добрую справу можна сапсаваць. Трэба выскокваць нечакана.

Кот скочыў... і адразу трапіў у бабулін падол.

На гэты раз бабуля рассмяялася ды так у падоле і вынесла ката на падворак. Надакучыў ёй неразумны кот.

Што было рабіць? І наважыўся кот пайсці на паляванне. Самы час перакананаць бабулю, як ён патрэбен у хаце.

Настрыў на плоце кіпцюры. Хвост падабраў пад рэмень - на паляванні ён будзе замінаць. Выцягнуўся, каб ямчэй паўзці па зямлі.

Краўся цішэй за бабулю, якая ходзіць, як мышка. Краўся да плота, дзе ў крапіве корпаліся малыя кураняты. "Во будзе смажанка для бабулі!" - цешыўся кот. Толькі настроіўся схапіць самае жоўценькае, як нехта балюча пацягнуў яго за каўнер. Зноў бабуля! "Не чапай пісклянят, тым больш сваіх! - сварылася яна. - І калі ты толькі пачнеш мышэй лавіць, абібок?"

"Тэтага не рабі... Гэта не чапай... Гэтага не лаві, бо свой... Каго лавіць? І мышы ж могуць быць свае", - у роспачы разважаў кот.

Каб болей не памыляцца, ён замкнуў усе норы, скляпы і нават падпечак. Цяжкую звязку ключоў прычапіў да рэменя, - цяпер ужо мышы ўдзень надта не пагуляюць. Сеў на акне і замурлыкаў: "Я самы слухмяны ў бабінай хаце..."

Песенька была такая ціхая, такая шаўковая, што вочы самі заплюшчыліся, і кот заснуў.

Ён спяваў песеньку сабе на ўцеху кожны раз, калі здараліся непрыемнасці, і да яго адразу прыходзіў сон. Кот спаў дзе папала: на акенцы і на паленцы, на лаўцы і на траўцы. Пасцелька - бачок і жывоцік. А зваць яго як? Лежань-абібок? Не! Бабулін коцік! Таму што цяпер па начах ён здымае з рэменя ключы, адчыняе норы, скляпы, падпечак і, нарэшце, ловіць мышэй.

**МАРЫЯ ВАЙЦЯШОНАК**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЛАНДЫШ — ЛЕК НА СЭРЦА

Ландыш майскі *(Convallaria maialis* L.) — гэта расліна, што выступае ў Еўропе, ва ўмеркаванай зоне Азіі і ў Паўночнай Амерыцы. У Польшчы сустрэнеш яе ўсюды, за выключэннем вышэйшых гор. Расце найчасцей у відных ліставых лясах і ў зарасніках. Знаходзіцца пад частковай аховай прыроды. Ландыш вырошчваюць таксама на плантацыях. Гэта не толькі прыгожая і пахучая расліна, але яна мае і значныя лячэбныя якасці, асабліва пры падрыхтоўцы сардэчных прэпаратаў.

У лячэбных мэтах зразаюць у канцы мая ці ў чэрвені, у час сухога надвор'я і калі абсохне раса, расцвітаючыя кветкі разам з 2-3 бліжэйшымі лісцьмі, і сушаць іх у цені і прадуўным месцы пры тэмпературы каля 20°C, або ў сушарнях — у тэмпературы 80-110°C. Лячэбнай сыравінай з'яўляюцца зёлкі ландыша — *Herba Convallariae.*

Прэпараты з зёлак ландыша найчасцей прымяняюцца пры хваробах сэрца. Пад іх уплывам сэрца пачынае працаваць больш эканомна. Асабліва каштоўныя гэтыя прэпараты для асоб, занадта ўражлівых на іншыя сардэчныя прэпараты, а таксама для пажылых людзей з тыповымі для старэйшага ўзросту хваробамі сэрца, як, напрыклад, парушэнне рытму працы сэрца, схільнасць да ацёкаў і іншыя.

Зёлкі ландыша выказваюць таксама нязначныя супакойваючыя і мачагонныя якасці.

Пры карыстанні з зёлак ландыша трэба заўсёды памятаць, што яны прыналежаць да лячэбнай сыравіны, якая дзейнічае вельмі моцна, таму прымяненне іх павінна быць пракансультавана з лекарам. Неабходна вельмі дакладна прытрымлівацца прыпісаных дозаў.

Зёлкі ландыша ўваходзяць у склад зёлак *„Cardiosan"* („Herbapol") якія выкарыстоўваюцца ў асноўным пры лячэнні пажылых людзей. Апрача таго, выкарыстоўваюцца для наліўкі *„Tinctura Convallariae"* („Herbapol"), якая ўваходзіць у склад кропляў *„Cardiol"* („Herbapol"), *„Kelicardina"* („Herbapol"), *„Neocardina"* („Herbapol") і *„Guttae cardiacae"* (Lab. Gal. Cefarm), а таксама дражэ *„Convafort"* („Herbapol"), якое прымяняецца пры хваробах сэрца.

Не рэкамендуецца рабіць хатнія прэпараты з зёлак ландыша, паколькі іх напары вельмі нетрывалыя і няпэўнае іх дзеянне. А разам з тым гэта сыравіна можа дзейнічаць настолькі моцна, што выклікае часамі нават сур'ёзнае атручэнне, таму менавіта гэтыя зёлкі і прэпараты з іх выдаюцца ў аптэках па рэцэпту лекара.

*„Cardiol"*, кроплі: дарослым рэкамендуецца 20-40 кропляў у кілішку вады 2-4 разы ў дзень пасля яды пры парушэнні і аслабленні функцыянавання сэрца.

*„Convafort"*, дражэ: дарослыя прымаюць па 1-2 дражэ 2-3 разы ў дзень перад ядой пры аслабленні працы сэрца.

*„Guttae cardiae"*, складаныя кроплі, у склад якіх уваходзяць і зёлкі ландыша: дарослыя прымаюць па 20-40 кропляў у кілішку вады 2-3 разы ў дзень пры тых жа захворваннях, што і вышэй.

*„Kelicardina"*, кроплі, у склад якіх уваходзяць зёлкі ландыша: дарослыя павінны прымаць па 30-60 кропляў у кілішку вады 2-4 разы ў дзень у прамежках паміж ядою пры працяглых захворваннях сэрца і склерозе.

*„Neocardina"*, складаныя кроплі, у склад якіх уваходзяць зёлкі ландыша: дарослым рэкамендуецца па 20-30 кропляў у кілішку вады пасля яды пры аслабленні працы сэрца, склерозе, болях сэрца.

*„Tinctura Convallariae"*, наліўка з ландыша: дарослыя прымаюць па 15-30 кропляў 2-3 разы ў дзень. На адзін раз нельга ўзяць больш 1,5 г, а сутачная доза не павінна перавышаць 5 г. Дзейнічае пры парушэнні працы сэрца і крывяноснай сістэмы.

**ЭСКУЛАП**

## АКСЕНЯ

Стала старая Аксеня ўдавой. Дзеці даўно жылі ў горадзе. Хацелі старую ўзяць да сябе, але маці адмаўлялася.

- Ага, якія разумныя! - казала Аксеня суседцы. - Хочуць, каб я аддала ўсё, а потым чакала кавалка хлеба, га? Не, пакуль я яшчэ змагу хадзіць, буду жыць тут, сяк-так абрабляць гэты кавалачак зямлі.

- Маеш ты рацыю, Аксеня. Калі дзеці ў цябе госці, то і ты для іх добры госць, - згадзілася суседка.

Аднак Аксеня яшчэ не думала дажываць век у сваёй хатцы. Марыла яшчэ раз выйсці замуж. Калі б жыла ў дзяцей, то ўжо на такую справу няма надзеі, хіба толькі смех. А тут у суседняй вёсцы, у другой гміне жыве ўдавец. Рашыла падысці да яго.

Выбралася Аксеня да Сашка. Расказала, што і як.

- А колькі год вы ўдава? - пацікавіўся жаніх.

- Тры тыдні.

- Што?! - Сашко аж спурпуравеў. - Як я такіх ненавіджу: не мінуў і год, а яны ўжо шукаюць іншых?! Як бы вы не жылі, але пасля смерці аднаго з сужонства трэба год адчакаць! - і выгнаў Аксеню з хаты.

Гісторыя гэтая дайшла хутка да вёскі, дзе жыла Аксеня і да яе дзяцей. Думалі, што старой будзе сорамна і супакоіцца, але - дзе там! Аксеня яшчэ шмат разоў пабывала ў Сашка, намаўляла жыць разам. Урэшце ўдавец абяцаў ёй, што калі прыдзе яшчэ раз, адсячэ ёй галаву!

- Няшчасная я, - скардзілася Аксеня суседцы. - Вельмі кепска жыць без мужчыны.

- Ой, Аксеня, Аксеня, перастань ты дурэць на старасць!

- Ты нічога не разумееш, Насця. Проста, я думаю зусім іначай, чым ты, - сумна сказала старая.

**АЎРОРА**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне вельмі дзіўны сон. Быццам бы мы з братам і маёй дачкою ходзім па вуліцах Беластока. Апынуліся каля кінатэатра „Тон". Нехта пачынае нас абвінавачваць, што мы ўкралі ў кагосьці грошы. „Якія грошы, — кажу я. — Глядзіце, шукайце!" — і расхіляю пінжак. А яны наступаюць. Раптам бачу, што з акна свайго дома выглядае мая маці-нябожчыца. Я хачу прасіць яе, каб яна нас абараніла, але маці раптам знікае дзесьці. Я хаджу па вуліцах, заглядаю ў розныя вокны. Шукаю маці, а яе нідзе няма.

Але раптам бачу, што замест маці знайшла дачку, якая на нейкі час прапала. Яна сядзіць у якімсьці буфеце і п'е гарэлку. Мяне гэта вельмі знервавала, але я кажу ёй толькі: „Гуляй, гуляй! Пабачыш, чым гэта скончыцца!"

Больш нічога з гэтага сну не памятаю. Што ён можа абазначаць, Астроне?

**Бася**

Бася! Сон нядобры. Баюся, што дачку тваю чакае паніжэнне, беднасць і сум (вас спачатку абвінавацілі ў пакражы грошай, а пасля яна піла алкаголь, які сведчыў бы аб тым, што ўсе клопаты яе будуць звязаны з дурнымі сябрамі). Дае надзею на паляпшэннне сітуацыі твая маці-нябожчыца, але і яна ж ледзь паказалася ў акне, ды зараз жа і знікла.

**АСТРОН**

## ВІРАВАНКА З „Г"




1. Бяда, няшчасце. 2. Пасля маланкі. 3. Запаўняе чэрап. 4. Цяжар, паклажа. 5. Лісцевае дрэва. 6. Шапачка на ножцы. 7. Дамова наконт цаны. 8. Цяжкі псіхічны стан. 9. Выкананне або гульня. 10. Сталічны горад над Балтыкай. 11. Палявыя прасторы. 12. Ступае. 13. Паслядоўнасць гукаў. 14 Матэрыял з каўчуку. 15. Песня-сімвал. 16. Аграмадны будынак.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 13 н-ра.**

**Упоперак:** армія, клуб, звер, уклад, рэйх, абат, ату, замак, хохма, ржа, міна, юнга, колер, віно, трап, прага.

**Уніз:** алоэ, абух, молат, язда, сена, розум, Йемен, бохан, трава, акр, уха, жылка, ібіс, акоп, юрта, грак.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Яўгенія Майстровіч** і **Мікола Красоўскі** з Бельска-Падляшскага.

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

## СЯЛЯНСКІ СУП

**Прадукты**: 15 дэкаў маладой крапівы, 10 дэкаў шчаўя, 1 морквіна, 1 пятрушка, 1 бульбіна, 1 цыбуліна, тлушч, лаўровы лісток, перац, соль, гваздзіка; апрача таго, трэба ўзяць на кожную порцыю 1 зваранае яйка і 1 лыжку смятаны.

Пасечаную, перад гэтым дакладна памытую крапіву стушыць у невялікай колькасці вады. Шчаўе дробна пасячы, пятрушку і моркву сцерці на бурачанай тарцы, цыбулю дробна нарэзаць. Падрыхтаваную гародніну стушыць на тлушчы і разам з крапівою ўкінуць у кіпячую ваду (яе колькасць залежыць ад таго, наколькі густы суп мы хочам атрымаць). Варыць мінут 20-30. На 10 мінут перад канцом гатавання палажыць лаўровы лісток, гваздзіку, некалькі зярнят перцу і сцертую на бурачанай тарцы бульбіну. Пасаліць па смаку.

Падаваць са смятанай і пасечаным яйкам.

**ГАСПАДЫНЯ**

Ліст у рэдакцыю

## КУРС БІЗНЕСУ

З прыемнасцю інфармую, што Прэзідыум і Рэвізійная камісія Культурнага Таварыства арганізуюць курс бізнесу. Выкладчыкамі будуць вядомыя спецыялісты па рыначнай эканоміцы. Сярод іх праф. д-р А. Бандарскі, які будзе чытаць лекцыі на тэму зааспектральнага аналізу капіталізму, д-р У. Юзюк, які будзе гаварыць аб выкарыстанні легкавых аўтамашын у працы камп'ютэраў, інж. Я. Сыч раскажа пра метады захоўвання асабістых каштоўнасцяў, рэд. М. Хмель будзе апавядаць аб магчымасцях выкарыстання энергіі пенсіянераў у супрацоўніцтве са сваімі установамі, а мгр Я. Цюлкоўскі па-дзеліцца асабістым вопытам аптымалізацыі кадравай палітыкі шляхам інтэнсіфікацыі метадаў рэдукцыі персаналу ў напрамку іх экстрэмалізацыі.

**АНДРЭЙ РАНЮК**

**Ад рэдакцыі**: Патэнцыяльным удзельнікам курсу раім праверыць, ці гэта не жарт, бо ніхто ў рэдакцыі не ведае спадара Андрэя Ранюка.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

**МРОЯ БЕЛАВЕЖСКАГА ДАЦЭНТА**

Дацэньваю я вашы звягі,
Усходнесценныя яцвягі.
У маёй мроі эка-прагрэс:
Зносім сцяну і садзім лес.

І завіруюць на вашым суме
Еўраазадкамі таўстасумы.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Сустрэліся дзве сяброўкі, якія не бачыліся ад заканчэння школы.
— Як табе жывецца? — пытае Кася.
— Нармальна. А колькі ў цябе дзяцей? Ты калісьці казала, што хочаш мець іх як найбольш.
— Амаль двое.
— Чаму — амаль? Ты што, можа, цяжарная другім?
— Не, адно ў мяне дзіця. А муж — другое.

* * *

— Спадабаўся табе ўчорашні фільм?
— Не глядзеў. Тэлевізар у мяне сапсаваны каторы месяц!
— То чаму яго не аддаеш на рамонт?
— Грошай шкада. Але, калі тэлевізара няма дома, то хто будзе лічыць мяне культурным чалавекам?..

* * *

— Чаму ты, Галіна, мяняеш нарачоных, як пальчаткі?
— Лепш іх мяняць, чым пальчаткі. За рукавічкі плаціць трэба, а хлопцы дарма дастаюцца, а і карысць з іх бывае!

* * *

— Тата, ты браў у дзядулі грошы на пачатку месяца? — пытае пяцігадовы Андрэй.
— Браў.
— А аддаў?
— Не. А навошта яму грошы? Выдаткаў не мае, а атрымоўвае вялікую пенсію.
— То я хіба цяпер буду ведаць, што значыць прымаўка „даіць кагосьці як карову"...

**АЎРОРА**







*— Паны, а цяпер чарга на зялёныя лёгкія Еўропы!* Мал. В. Залэнскага

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

**СТРАЧАНАЕ ПРАВА**

Так як Начальнік Метэацэнтра прадказаў добрае надвор'е, Беражлівы Чалавек прывёз шмат парасонаў, якія збіраўся выгадна прадаць. Але надвор'е было сапраўды добрае: ніхто не купляў парасоны. Тады Беражлівы Чалавек падаў на Начальніка Метэацэнтра ў суд, каб той кампенсаваў страты.
— Пан суддзя, — сказаў Адвакат Падсуднага, — я лічу, што такое дзіўнае абвінавачванне не можа разглядацца. Мой кліент не толькі нясе адказнасць за страты, ён жа прадказаў добрае надвор'е. Трэба было толькі прыслухацца.
— Справа менавіта ў гэтым, пан суддзя, — адказаў Пракурор. — Сваім праўдзівым прагнозам падсудны ўвёў у зман майго кліента. Ён так часта маніў да таго, што цяпер проста страціў права гаварыць праўду.
Начальнік Метэаслужбы быў асуджаны.

**ЛЯ БРАМЫ РАЮ**

Памерлая Жанчына баязліва пастукала ў райскую браму.
— Мадам, — сказаў св. Пётр, падыходзячы да брамы, — адкуль вы прыбылі?
— З Сан-Францыска, — дрыжачым голасам адказала Жанчына, чырванеючы.
— Не хвалюйся, — паблажліва сказаў святы. — У параўнанні з вечнасцю гэта не такі вялікі грэх.
— Але гэта яшчэ не ўсё. — Жанчына хвалявалася ўсё больш. — Я атруціла мужа, зарэзала сваіх дзяцей...
— Ага, — пасуравеў святы, — твая споведзь вымушае мяне запытацца пра вельмі непрыемную справу. Ці была ты Членам Жаночай Асацыяцыі Прэсы?
Жанчына сабралася і лагодна адказала:
— Не, не была.
Брама з перлаў і смарагдаў адчынілася, пачуліся гукі цудоўнай музыкі. Святы адышоў на крок і пакланіўся.
— Уваходзь да свайго месца вечнага спачынку. Але Жанчына вагалася.
— Атручанне... забойства...
— Гэта ўсё дробязі. Мы не можам быць жорсткімі да пані, якая не належала да Жаночай Асацыяцыі Прэсы. Вазьмі ліру.
— Але я падавала туды заяву... мяне не прынялі.
— Вазьмі дзве ліры.

*З англійскай пераклаў*
*АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ*

## АНЕКДОТЫ

Сустрэліся дзве вясковыя жанчыны.
— Як справы ў вашага сына? — пытае адна.
— Справы ў яго нядрэнныя. Працуе цыркачом. Нічога не робіць, толькі тры разы на дзень засоўвае галаву ў пашчу тыгра, а так цэлы дзень вольны...

* * *

Крычыць Кастусь з печы:
— А ну, падай, жонка, пірог!
— Ды ты хоць вочы прадзяры!
— Дык рукі ж заняты: якраз чарку наліваю!

* * *

— Зноў ты п'яны прыйшоў дадому, — дакарае жонка Кастуся.
— Не прыйшоў, а мяне падкінулі на аўтамашыне, — апраўдваецца той.

* * *

Апанас купляў на рынку язык. Сусед, якіназіраў за ім, не вытрымаў і здзіўлена спытаў:
— У чым справа, Апанас: калі я вас тут не застаю, вы заўсёды язык купляеце...
— Вось вы мяса купілі, дык мяснік у яго касцей накідаў. А ў языку, як вядома, касцей не бывае, да яго ніякай даважкі не пакладзеш...

* * *

— Я чуў, дзядзька Сідар, што вы выдаеце дачку за сына суседа, з якім вы некалькі год не размаўляеце.
— Так. Гэта адзіны спосаб адпомсціць яму.

* * *

Два студэнты заказваюць піва. Адзін з іх дадае пры гэтым:
— Толькі ў чыстым куфлі.
Праз мінуту карчмарка прыносіць два куфлі і пытае:
— Хто з вас заказваў у чыстым?

Падборку зрабіў
**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## СЕНТЭНЦЫІ

Каханне — каштоўны камень
у кальe жыцця.

* * *

Адна цэгла яшчэ не печ.

* * *

Роспач болю не пагасіць.

* * *

Вядром ведаў не нальеш.

* * *

У небыцці даспявае наша
зачацце.

**БАРЫС РУСКО**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Ці можна ў жыцці ўгадаць з замужжам?! Мы даволі доўга „хадзілі" з маім мужам, пакуль не пажаніліся, так што нельга гаварыць аб тым, што слаба ведалі адзін аднаго. Ведалі ўсе свае добрыя і кепскія рысы і жаніліся даволі свядома.

І мушу табе прызнацца, што шэсць гадоў мы жылі ў вялікай згодзе, будучы ўжо мужам і жонкай. Быў ён у адносінах да мяне даволі тактоўны, чуллівы і, што тут граха таіць, паслухмяны. Рабіў усё, як я яму казала, памагаў на кухні і пры дзецях. З працы бег адразу дахаты, хадзіў за пакупкамі. Стараўся аблягчыць мне жыццё як мог. Ні маіх, ні яго бацькоў у Беластоку не было, трэба было разлічваць толькі на ўласныя сілы. Было добра. І ў хаце, і ў ложку. Але на ўсё прыходзіць канец. Пачала я заўважаць у апошні час, што нешта змянілася. Мой муж пасля працы пачаў часцей некуды выходзіць. Не казаў куды, або гаварыў няпраўду. Я ўжо гэта дакладна праверыла. Мана ішла за маною.

Не магу сказаць, што перастаў цікавіцца домам. Гэта была б няпраўда. Таксама гуляў з дзецьмі, карміў іх, купаў. Разам мы абедалі. Нават не сварыўся са мною. Але пачала заўважаць я, што ён часамі быццам быў непрысутны. На рабоце ў іх пачалі рабіць нейкія кулікі, выязныя імяніны з вогнішчам у лесе або на нечай дачы. Ніколі ён не запрашае мяне. Гаворыць, што ўсё гэта толькі ў кампаніі супрацоўнікаў. Мне ў такія моманты бывае вельмі прыкра, бо ведаю, што некаторыя бяруць з сабою сваіх жонак ці мужоў. Чаму яму са мною не хочацца ехаць? Ні сляпая я, ні крывая, ды і паводзіць сябе ўмею. Дык у чым справа? Няўжо на ўзлонне прыроды яны едуць, каб прадаўжаць нейкія службовыя размовы? Муж мне гаворыць, што там мне рабіць няма чаго. А я тады адчуваю сябе разгубленай і адзінокай.

Зрабілася цёпла, і мой муж паведаміў мне, што неўзабаве выедзе з сябрамі на азёры. У аднаго яго знаёмага ёсць свая яхта. Бадай можа ён крыху адпачыць ад сям'і?..

А што, мне дык не хацелася б адпачыць, пакупацца, пазагараць?.. Я меркавала, што летам мы з дзецьмі зможам паехаць на мора. У мяне там ёсць нават блізкія сваякі, у якіх бы можна было жыць (у іх вялікі дом). А ён на гэту тэму ні мычыць, ні целіцца. Не разумею, што здарылася, але пачынаю траціць галаву. У кожным разе справа выглядае няясна. А хадзіць за ім і пільнаваць, што, дзе і калі ён робіць, я не буду. На гэта не дазваляе мой гонар. Выпытваць таксама ні ў кога не хачу. Што б гэтыя людзі пра мяне падумалі! Дык што мне рабіць, каб справу выясніць?

**Данка**

Данка! Найчасцей, калі ў такіх выпадках ёсць штосьці няяснага, дык у справу замешана кабета. Спачатку ўсё здаецца дзіўным, незразумелым. Муж пачынае ўцякаць з дому без відочнай патрэбы. Пасля няма яго дома штораз даўжэй і нарэшце... Слухай, што там саромецца людзей, пераживаць, што яны пра цябе падумаюць. Яны ж ужо ведаюць пра гэту справу больш за цябе.

Іншая справа, калі б ты нічога не ведала і не адчувала ў паводзінах мужа ніякай змены. Але ж ты і так ужо падазраеш яго, адчуваеш сэрцам яго здраду. Варта ўжо было б і канкрэтна даведацца, як выглядае твая сітуацыя, бо можа быць запозна. Прапаную на пачатак пагаварыць з ім самім.

**СЭРЦАЙКА**